

Юбілей „Арэшкаў” → 3

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714



Францішак Апановіч → 9

http://niva.iig.pl

redakcja@niva.iig.pl

№ 05 (2907) Год LVII | Беласток, 29 студзеня 2012 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)

# Адклікане з адтэрміноўкай

Тэкст і фота
Мацея ХАЛАДОЎСКАГА



Сесіяй рады гміны кіравала старшыня Ева Урбановіч. Войт Андрэй Плясковіч першы злева

**Андрэй Плясковіч, войт Нарваўскай гміны, незалежна ад правамоцнага прысуду Акруговага суда ў Беластоку, а раней Раённага суда ў Бельску-Падляшскім, якім ён прыгавораны да пяці месяцаў зняволення з адтэрміноўкай на два гады, пакуль надалей будзе выконваць сваю функцыю, паколькі нарваўскія радныя сталі ў яго абарону і не пагадзіліся на спыненне яго паўнамоцтваў. Усё паказвае на тое, што будзе мусіў умяшацца падляшскі ваявода. Войт, хоць не адмаўляе прысуду, лічыць яго несправядлівым, а большасць радных разлічвае на тое, што ўдасца яму ишчэ завяршыць пачатыя інвестыцыі.**

18 студзеня, дакладна ў 9 гадзін раніцы, на сесіі Гміннай рады з’явілася цэлая пятнаццатка мясцовых радных, якія ўважліва праслухоўваліся тлумачэнням войта і з нецярплівасцю чакалі вынікаў галасавання. Пытанне парадку дня было ў прынцыпе адно: заява аб спыненні тэрміну паўнамоцтваў кіраўніка гміны. Раней выслухалі толькі справаздачу з яго дзейнасці паміж сесіямі, якая звычайна даецца ў час кожнай з іх. Войт даў справаздачу коратка:

— Не здарылася нічога асаблівага.

Успомніў аб дакументацыі, якая рыхтуецца для невялікай інвестыцыі ў Васьках і прадставіў сітуацыю з рамонтам павятовых дарог:

— Ачыстка ад снегу нам дасюль не дакучала. Гмінная ўправа функцыянавала нармальна.

Пятнаццаць хвілін пазней радныя прыступілі да разгляду галоўнага пытання.

Старшыня рады Ева Урбановіч зачытала спачатку ліст перасланы радным дырэктарам Беластоцкай дэлегатуры Краёвага выбарчага бюро Маркам Рыбнікам. Прыгадаў ён, што ў сілу прыгавору Раённага суда ў Бельску-Падляшскім ад 25 жніўня 2011 года войт Плясковіч прыгавораны правамоцным прысудам да зняволення за наўмыснае злачынства, судзімае па публічным абвінавачанні. Перадаючы ксеракопіі правамоцных судовых рашэнняў, звярнуў увагу на тое, што згодна адпаведнаму артыкулу закону аб непасрэдным выбары войта, бурмістра і прэзідэнта горада, тэрмін паўнамоцтваў войта мінае ў выпадку страчання права на выбар або недахопам таго права ў дзень выбараў. Згодна з іншым артыкулам выбарчага закону і закону аб непасрэдным выбары войта, Андрэй Плясковіч, пакараны правамоцным прысудам за наўмыснае злачынства, не мае права на тое, каб выконваць сваю функцыю і прыгадаў, што адпаведная пастанова ў гэтай справе павінна быць прынята Гміннай радай на працягу месяца ад канчатковага рашэння суда. Старшыня прачытала прысуды абодвух судоў, якія прыгаварылі войта за тое, „што 16 жніўня 2010 года каля 15.30-16.00 гадзіны пры вуліцы Міцкевіча ў Нарве і дзейнічаючы наўмысна, публічна і без прычыны, паказваючы такім чынам на відавочнае грэбаванне юрыдычным парадкам, учыніў ён траўму Янушу Русачыку [пры аўтобусным прыпынку ПКС, у цэнтры, насупраць яго дома — М. Х.] такім чынам, што папярэдне, хапіўшы рукамі за кашулю і прыцягнуўшы да сябе, ударыў раз яго ў ваколіцы твару (…) што спрычынілася да цялеснага пашкоджання органу цела ў Януша Русачыка на час перавышаючы сем дзён”. Апрача таго, прымаючы рашэнні, абодва суды прынялі пад увагу факт, што Андрэй Плясковіч пагражаў пабоямі Янушу Русачыку і „гэтыя пагрозы выклікалі ў ім абгрунтаваныя апаскі, што будуць выкананы” ды „зняважыў яго, лаючы словамі публічна прызнаванымі абразлівымі”. Апішам гэтае здарэнне простай мовай: Андрэй Плясковіч (па прафесіі інжынер будаўніцтва) Януша Русачыка (па прафесіі культуразнаўцу) ударыў у твар „з галоўкі”, зламаў яму нос і пасінячыў. Абвінавачаны абавязаны выплаціць пакрыўджанаму кампенсацыю ў памеры тысячы злотых і аплаціць судовыя кошты.

Згодна з правам войт (абраны на гэтую пасаду ў другім туры выбараў 5 снежня 2010 года) у час сесіі даваў тлумачэнні:

— Такі інцыдэнт адбыўся. Быў ён наслядоўнасцю нейкіх дзеянняў пана Русачыка: званкоў мне, лаяння мяне па тэлефоне, высылання эсэмэсак з пагрозамі і страшэння судовымі працэсамі. Я лічу, што гэтае абвінавачанне абсурднае. Суд першай інстанцыі [Акруговы суд — М. Х.] перш за ўсё не прыняў пад увагу паказанняў відавочцаў, а толькі паказанні брата пана Русачыка, які з’яўляецца маім працаўніком і які размаўляў са мною аб гэтай справе дзень пасля інцыдэнту.

Адзначыў:

— Паміж мною і панам Русачыкам розніца дваццаці гадоў. У момант інцыдэнту яму было 29 гадоў, а я концыў ужо 50. Не мог бы я тут прымяняць нейкага фізічнага насілля. Тое, што пашкодзіў ён нос, з’яўляецца вынікам ягонай агрэсіі. Пан Русачык не меў сведкаў, хаця гэта было летам, у поўдзень, калі з „Пронару” выходзіла пад семсот працаўнікоў. Сведкам, які расказваў як гэта было, была яго маці.

У паказанні сястра пана Русачыка заявіла, што маці даведалася аб ходзе інцыдэнту па тэлефоне сына. Як войт, так і Януш Русачык, не скрываюць, што іхні канфлікт датычыў будаўнічых пытанняў звязаных з уласнасцю — як гэта акрэслілі суды — пакрыўджанага і яго суседзяў. Андрэй Плясковіч перад тым, як заняў пасаду войта, значыць і ў час інцыдэнту на прыпынку, працаваў у гміне інспектарам будаўнічага дазору. Выдаў ён м.інш. адмоўную працяг ☞10







# Дэжавю

*Пра Беларусь зараз гаворыць увесь свет. На жаль, больш кепска, чым добра. Тое, што робіцца ў нашай краіне, многія называюць ганьбай Еўропы. Еўрапейскія краіны і Амерыка ўводзяць рознага кшталту санкцыі. Многім беларускім чыноўнікам і парламентарыям забаронены ўезд на тэрыторыю Еўрасаюза. Знакамітыя людзі планеты пішуць лісты беларускім палітвязням з пажаданнямі свабоды. Толькі гэта аніяк пакуль што не ўплывае на саму сітуацыю, на яе сутнасць.*

*Некаторыя еўрапейскія палітыкі прама называюць становішча ў Беларусі сваёй асабістай палітычнай паразай. Іншыя апускаюць рукі і прызнаюцца, што яны не ведаюць як яшчэ можна паўплываць на беларускі рэжым. А ў шэрагах беларускай унутранай апазіцыі ўсё гучней чутны галасы пра тое, што Захад не рашучы, слабы, недастаткова паслядоўны і ўвогуле кінуў сваіх дэмакратычных аднадумцаў на міласць існуючай уладзе.*

*Толькі вось ці ўсё зрабіла сама беларуская апазіцыя для змены такога становішча?! Ці можа яна ўвогуле хоць крыху ўплываць на сітуацыю ў сваёй краіне? І ці хоча? Тут пытанняў больш чым адказаў. Бо пакуль што, гледзячы на дзеянні некаторых палітычных шышак ад апазіцыі, складваецца такое ўражанне, што ўсё гэта мы ўжо недзе бачылі і чулі. Такое своеасаблівае дэжавю, якое мае некалькі стабільных перыядаў, якія паўтараюцца з дакладнасцю да коскі і адрозніваюцца толькі датай.*

*А пачынаецца ўсё з гучнага ляманту адразу пасля выбараў. І не важна пасля якіх — прэзідэнцкіх, парламенцкіх ці мясцовых. Сцэнар не мяняецца. Адразу пасля выбараў ідзе размова пра фальсіфікацыю і пра тое, што нарэшце ўсім стала зразумела, што на такія выбары хадзіць не варта. Гучаць сцвярджэнні, што ў наступных выбарах апазіцыя ўдзельнічаць не будзе. І ставяцца жорсткія ўмовы, каб улада выпусціла палітвязняў і змяніла выбарчае заканадаўства. Гаворыцца гэта так цвёрда і рашуча, што пачынаеш верыць. І ўсё, пакуль што, здаецца ідзе лагічна і ў правільным кірунку.*

*Пасля надыходзіць перыяд стварэння чарговай кааліцыі. Беларуская апазіцыя чамусьці любіць лічбу шэсць. Часамі гэтая лічба замаскіраваная пад назвы кшталту „пяцёрка плюс”, а бывае і не маскіруецца. Шэсць, і ўсё тут. Задача гэтай кааліцыі зводзіцца ўсяго да двух рэчаў. Першая, яна абвяшчае ўсяму свету, што беларуская апазіцыя нарэшце аб’ядналася. І другая, апазіцыя сур’ёзна абмяркоўвае, якім павінен быць байкот выбараў, актыўным ці пасіўным. Гэта ўжо смешна. Але галоўны смех наперадзе. Абмеркаванне варыянтаў байкоту завяршаецца прыняццем рашэння ўдзельнічаць у выбарах. Спачатку якімсьці адным суб’ектам. Пасля, паступова, колькасць палітычных суб’ектаў даццягваецца да ўсё той жа лічбы шэсць. Праўда, дэкларуецца, што ўдзел у выбарах мажлівы толькі пры ўмове, калі ўлада выканае пэўныя патрабаванні. Улада тых патрабаванняў ніколі не выконвае, а апазіцыя, моцна пакрыўдзіўшыся, ідзе на выбары без аніякіх умоў.*

*Здаецца, гэта поўны дэбілізм. Затое ўсе пры справе. Улада павялічвае штаты АМАПу і іншых спецслужбаў, адукаваныя апазіцыянеры пішуць перадвыбарчыя праграмы і прамовы, неадукаваныя дамаўляюцца праз пасрэднікаў з уладай, каб аднаго-двух іх партыйцаў прапусцілі ў дэпутаты. А пасля ўсё паўтараецца. Толькі ў выглядзе яшчэ большага абсурду і фарсу. Ува ўсіх раптам адчыняюцца вочы, усе бачаць падманлівасць улады, невыпушчаных з астрога палітвязняў, нязменнае выбарчае заканадаўства і пачынаюць наракаць, што Захад недастаткова рашучы і вельмі слаба і мала цісне на дзеючы ў Беларусі палітычны рэжым.*

*Гэты раз не стаў выключэннем. Ужо прагучалі галасы, што на выбары ісці трэба. І так гучна прагучалі, што не чуваць за імі тых галасоў, якія сцвярджаюць, што такія дзеянні гэта здрада не толькі палітвязням, не толькі сваім ранейшым заявам, не толькі здароваму сэнсу і логіцы, але і будучыні беларускага народа.*

*Адно толькі можна сцвярджаць з упэўненасцю: калі ўсё ідзе па старым сцэнары, то і вынік будзе стары. Дакладней, не будзе аніякага. Акрамя дэжавю.*

**Віктар САЗОНАЎ**

# Археалогія аднаго знаёмства (2)

*З Янкам Туронкам, якога жыццё загнала аж у Нарвегію, кантактуемся шляхам інтэрнэту. Пішам адзін аднаму папольску на розныя тэмы. Таксама і беларускія. А сталі яны вядучымі ад часу, калі, калупаючыся ў інтэрнэце, натрапіў я на біяграмы Браніслава і Юрыя Туронкаў. Браніслаў — лекар і грамадскі дзеяч, нязденісненсы сенатар ІІ Рэчы Паспалітай, вязень санацыйнай палітыкі пакараны за тое, што патрабаваў ушанавання для няпольскай, а беларускай рацы — гэта Янкаў дзед. Аб Юрым, які так прыгожа спрачаецца за беларускую праўду на прафесарскім узроўні Янак кажа: „дзядзя Юрусь”. Толькі што раней нават не піснуў аб сваіх вялікіх беларусах. Вось які ён утойлівы!*

*Я ніколі не чуў, каб Янак гаварыў пабеларуску — што не значыць, што радзімае мовы пазбыўся са свае „гембы”. А наколькі прыстойны з яго чалавек, дык мусіў мець і прыстойнае выхаванне, і не сумняваюся, што яго бацькі не саромяцца беларускай мовы. Так як і Янак. Аднак калі б ён не ведаў польскай мовы, мы не маглі б паразумецца. Ну, хіба што па-англійску ці па-нямецку, на мовах, з якімі ён пазнаёміўся ў сярэдняй і вышэйшай школах. Магчыма, што і на нарвежскай, якой ужо, здаецца, валодае някепска. На шчасце, Янак і я нарадзіліся не так далёка адзін ад аднаго. Ён у Гайнаўцы, я ў Беластоку. Хадзілі мы ў польскія школы і паглыналі, кожны ў свой асабісты спосаб, польскі сінтаксіс і маўленне ў меру поступаў адукацыі. Апрача таго азнаямляліся мы з мовай дзіцячых гульняў на дварах — яшчэ на схіле і на пачатку сямідзесятых гадоў поўнай разнамоўных эмоцый з польска-беларуска-ўкраінска-руска-жыдоўскімі канатацыямі. Як неўзабаве аказалася, была гэта мова Атлантыды. На тэкім двары выхоўваўся і я, падобна як Янак. „У дзяцінстве, — піша ён у э-мейле, — усе на двары і ў школе былі калегамі. Не цікавіла нас, хто кім ёсць. Ведаю цяпер, што палова або большасць маіх даўніх камнаньёнаў забаў і вучобы мела беларускія або ўкраінскія карані. Не было гэта аднак — прынамсі для мяне — важным да часу, калі беззваротна памерла мова нашага шматэтнічнага двара”.*

*Калі я вучыўся ў пачатковай школе, мой бацька, народжаны ў каталіцка-праваслаўнай вёсцы, у якой я цяпер жыву, выслаў мяне на неабавязковы факультэт англійскай мовы; пасля яшчэ нямецкай. Не ведаю, якім мовам МУСІЎ вучыцца Янак. У сапраўднасці пытанне, хто на якой мове МУСІЦЬ гаварыць, не мае для мяне ніякага значэння. Спелых людзей не цікавіць тое, хто кім ёсць, а якім ён ёсць. Ды справы прымаюць новы паварот, калі акалічнасці патрабуюць рашучых дэкларацый — каб як найрадзей прымушала нас да гэтага жыццё! А тое, у такі час, які маем сёння, не толькі было ці ёсць так жорсткім, як трывіяльным. Бо ў час кампанейскай гамонкі аб смакавых каштоўнасцях украінскага баршчу ці карпа па-яўрэйску або дыскусіі аб задавальненні палякаў ад гнілога бігасу ці беларусаў ад салёнага сальца, няраз гучаць дурныя дэкларацыі: „Не люблю я саланінкі. Бігас — вось гэта ежа!”. І ўжо гэтага хопіць, каб саланінка пачала нападаць на бігасок ці боршчык на карпіка. А стол застаўлены разнастайнасцю страў гэта самая прыгожая спадчына нашага культурнага паграніччa — настолькі, наколькі ніхто нікому не заглядае ў зяпу. Не — патрыятычнаму абжыранню нацыянальнымі стравамі! Так — пайнапраўнай для ўсіх бяседзе! І смакаванню смакаў. Хоць, на маю думку — бігасок найсмачнейшы. І саланінка. І боршчык. І карпік! Кажу гэта абсалютна шчыра. А год 1989 гэтую шчырасць дазволіў. Як напісаў Янак у адным з э-мейлаў, „(...) у значнай ступені беларушчына сярод беларусаў пражываючых у Польшчы была па розных прычынах інтымная, прыватная. Толькі пасля ’89 года пачала выходзіць з хат. Калі я вярнуўся ў сваю Гайнаўку, вялікае ўражанне выклікала на мне тое, што калі хто адчуваў сябе беларусам, гаварыў на вуліцы ці ў краме без ніякіх тармажэнняў па-беларуску. Раней таго не было. Быццам бы тыя самыя людзі, а ўсё ж не тыя самыя”. Вось — мова! У яе глыбокіх залежах скрываюцца першакрыніцы нацыянальнай тоеснасці. Ды ці яна з’яўляецца злучальным рэчывам беларушчыны — сёння?*

*(працяг будзе)*

**Міраслаў ГРЫКА**

Вачыма еўрапейца

# Пакарыстаюцца італьянцы



*Беларусь, несумненна, з’яўляецца цяжкім партнёрам для Польшчы і іншых краін Еўрасаюза. І гаворка тут не так пра палітычныя меркаванні, між іншым звязаныя з павагай да свабоды і грамадзянскіх правоў у гэтай краіне, як пра гаспадарчыя пытанні. Я ўсвядоміў гэта ў чарговы раз, калі няўдаўна галоўны рэдактар „Нівы” падкінуў мне артыкул з газеты „Вячэрні Брэст”, у якім інфармавалася, што пад канец мінулага года ўлады Брэсцкай вобласці падпісалі дамову з адным з італьянскіх канцэрнаў, які займаецца вырабам турбін і элементаў абсталявання электрастанцый. Мае ён быць інвестарам новай цеплацэнтралі ў Брэсце. Калісьці я сам пісаў у „Ніве” — аб чым цяпер прыгадваюць калегі з брэсцкіх газет — што не так даўно беларускія ўлады абмяркоўвалі іншы варыянт. Будаўнічым новай электрастанцыі, толькі што ў Гродзенскай вобласці, мела быць фірма „Kulczyk Holding”. Электрастанцыя мела працаваць на польскім вугалі і рээкспартаваць частку выробленай на Гродзеншчыне энергіі ў Польшчу. У размове са мною гэтай ідэяй былі захоплены тагачасны і цяперашні віцэ-прэм’ер і міністр польскай эканомікі Вальдэмар Паўляк. Польска-беларускі план, аднак, праваліўся. Афіцыйныя беларускія ўлады сцвердзілі, што больш выгадным выбарам будзе пабудова газавай электрастанцыі. На іх думку, гэта больш карысны выбар хаця б па экалагічных меркаваннях. Невыпадкова аднак „Вячэрні Брэст” прыгадвае, што вызначэнні з „Kulczyk Holding” сышліся з ахаладжэннем польска-беларускіх стасункаў пасля апошніх прэзідэнцкіх выбараў у Беларусі. Кіраўніцтва польскай фірмы выказваецца на гэтую тэму неахвотна.*

*Тым часам на рашэнне падпісання дамовы ўлад Брэсцкай вобласці з італьянцамі несумненна меў уплыў карысны для Беларусі кантракт з Газпрамам на пастаўку таннага паліва. Апрача таго, як інфармуе „Вячэрні Брэст” — ключавую ролю ў беларуска-італьянскіх размовах адыграў адзін з больших еўрапейскіх банкаў, дакладна італьянскі „Inteza”, дзейнічаючы праз сваё прадстаўніцтва ў Маскве. Новая газавая электрастанцыя мае быць абсталяваная ў дзве турбіны магутнасцю ў 400 мегаватаў. Што важнае, 70 працэнтаў выробленай тут энергіі мае экспартавацца ў краіны Еўрасаюза. Так прынамсі заявіў Міхаіл Крывецкі, намеснік старшыні Брэсцкага аблвыканкама.*

*Уся гэтая сітуацыя з пункту гледжання супольнай палітыкі Еўрасаюза ў адносінах да Беларусі прынамсі дзіўцкая. Калі прыняць, што па прычыне здраняў і агульнай палітычнай сітуацыі ў Беларусі Польшча праз „Kulczyk Holding” адмовілася ад прыбытковага для Польшчы інтарэсу, а на тое месца ўвайшлі італьянцы, ці гэта абазначае, што разумение дэмакратычных прынцыпаў нашымі паўднёвымі суседзямі ёсць іншае і не абавязвае ўсю еўрасаюзную сям’ю? Можа для багацейшай часткі ЕС, да якой прылічваюцца італьянцы, нават пры цяперашнім эканамічным крызісе гаспадарчыя справы не маюць сувязі з палітыкай? А пры нагодзе дазволю сабе прывесці адзін з пунктаў запісаных у супольнай дэкларацыі варшаўскага саміту Усходняга партнёрства ад 29-30 верасня мінулага года (УП ахоплівае заадно Беларусь, як Польшчу і Італію; хаця Беларусь у час саміту гэтай дэкларацыі не падпісала, надалей яна ў складзе УП):*

*„Спасылаючыся на энергетычную ўзаемазалежнасць, удзельнікі варшаўскага саміту даюць згоду на ўзмацненне энергетычнага партнёрства. З задавальненнем прымаюць двухбаковае і шматбаковае супрацоўніцтва на абшары энергетыкі. Будуць прамаваць інклюзіўную і адкрытую палітыку датычную энергетычнай бяспекі, транспарту і забеспячэння. Удзельнікі варшаўскага саміту пагаджаюцца працаваць дзеля інтэграцыі ўсіх энергетычных рынкаў”. Як відаць, італьянцы карыстаюцца магчымасцю такой інтэграцыі.*

**Мацей ХАЛАДОЎСКІ**

Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА

# 40-годдзе дзейнасці „Арэшкаў”

**Вакальны жаночы калектыў „Арэшкі” з прыпушчанскага Арэшкава карыстаецца асаблівым зацікаўленнем як з боку масмедыяў, так і знатакоў традыцыйнага фальклору з-за вельмі высокага мастацкага ўзроўню традыцыйнага спеву. Сёлета выпадае 40-годдзе дзейнасці арэшкаўскага калектыву, што з'яўляецца добрай нагодай для чарговага спаткання з „Арэшкамі”.**



„Арэшкі” з абрадам „Перапеліца” ў Музеі і асяродку беларускай культуры ў Гайнаўцы, 2005 г.

— „Арэшкі” — самы лепшы калектыў на Беласточчыне з ліку калектываў, якія спяваюць аўтэнтычныя фальклорныя песні. Жанчыны з Арэшкава выступаюць без акампанементу, што дазваляе добра ўслухацца ў моц і прыгажосць іх галасоў, якія ствараюць адзін арганізм, — захапляецца вядомы фальклярыст Сцяпан Копа, які працаваў галоўным інструктарам па справах фальклору пагранічча ў Ваяводскім асяродку анімацыі культуры ў Беластоку.

— Арэшкаўскія жанчыны з'яўляюцца амбасадарамі традыцыйнага фальклору Падляшша і трэба на руках насіць іх за багацце песень, якія яны захавалі ад забыцця і прэзентуюць на сцэне. На вялікую ўвагу заслугоўвае іх непаўторная манера спеву, поўная гармоніі. Калі б разбудзілі мяне ноччу, я патрапіў бы вылучыць сярод многіх выканаўцаў „Арэшкі”. Іх спеў характэрны для прыпушчанскага рэгіёна Гайнаўшчыны, ці нават Бельшчыны, і захоўвае многа супольнага з выканаўчай манерай беларускіх калектываў з Камянца або Жабінкі. Ад арэшкаўскага калектыву можна навучыцца традыцыйнаму фальклорнаму спеву. Жанчыны без прафесійнай адукацыі навучыліся вельмі ўмела карыстацца сваімі цудоўнымі галасамі і могуць доўга спяваць без адпачынку. Ад „Арэшкаў” вучылася спяваць таксама і нашая „Жэмэрва”, — пералічваў козыры арэшкаўскага калектыву Дарафей Фіёнік, старшыня Аб'яднання „Музей малой айчыны ў Студзіводах” і заадно фальклярыст.

Спецыялісты па неапрацаваным фальклоры лічаць, што „Арэшкі” ўвесь час спявалі на вельмі высокім узроўні. Жанчыны з Арэшкава найчасцей выконвалі песні на два галасы, а трэці голас Тацяны Гурын моцна ўпрыгожваў выступы калектыву.

## Ці „Арэшкі” спынілі дзейнасць?

— Няма каму спяваць у нашым калетыве. Мы ўжо пастарэлі і няхай малодшыя ездзяць па конкурсах і выступаюць, — заяўляе з сумам кіраўнік калектыву „Арэшкі” Надзея Грушэўская і дадае, што на фестывалі „Беларуская песня” калектыў апошні раз спяваў у 2009 годзе, а апошні раз публічна выступіў на „Сустрэчах з праваслаўнай калядкай” у Гайнаўскім доме культуры ў студзені 2010 года. — Пазней, у лютым памёр мой брат. Я з-за жалобы перастала спяваць і ўвесь калектыў тады спыніў сваю дзейнасць. Пазней памёр муж Тацяны Гурын і мы ў акроеным складзе таксама не рашыліся выступаць. Раней нас цягнула на спеўкі і выступы, лічылі мы сваім абавязкам сустракацца ў кампаніі і спяваць. А цяпер ужо адвыклі і ад рэпетыцый, і ад супольнага спеву. Зараз моцна хварэе Надзея Андрасюк, а ўсе іншыя жанчыны з калектыву, па-за ёй і мной, жывуць на хутарах і складана было б ім дабірацца ў святліцу на рэпетыцыі і выезды. Я думаю, што ўжо хіба не будзем выступаць як калектыў.

Ужо ў 2010 годзе я заўважыў, што „Арэшкі” на мерапрыемствах не выступаюць. Прыкра слухаць пра спыненне дзейнасці славутага калектыву. Іншая спявачка Марыя Скепка толькі пацвердзіла выказванні Надзеі Грушэўскай аб спыненні дзейнасці.

— Мы ўжо пастарэлі і нават брыдка такім выступаць. Няхай малодшыя калектывы спяваюць, а такіх жа многа яшчэ, — сказала Марыя Скепка і таксама дадала, што „Арэшкі” хіба ўжо не будуць выступаць. — Адвыклі мы ўжо ад спявання і не хочацца ўжо выступаць. Раней, як былі малодшымі, як жа хацелася спяваць. Маёй суседцы Надзеі Грош ужо 80 гадоў, а хаця мне яшчэ 70 гадоў, то таксама хварэю і нам з хутароў далёка было б хадзіць на спеўкі, калі б рашыліся яшчэ спяваць.

Які будзе далейшы лёс калектыву зараз цяжка канчаткова прадбачыць, бо ж жанчыны з Арэшкава, раней заўсёды радасныя асобы, яшчэ могуць рашыцца выйсці на сцэну, хаця б і на кароткі перыяд. Можа не сказалі яны яшчэ апошняга слова і мы пачуем іх цудоўны спеў, які так хваляць любіцелі аўтэнтычных песень, а перш за ўсё знаткі неапрацаванага фальклору Сцяпан Копа і Дарафей Фіёнік. Аднак зараз жанчыны з Арэшкава моцна смуткуюць па прычыне хваробы Надзеі Андрасюк і ў бліжэйшым часе, магчыма, не будзе ў іх настрою да спеву, ці святкавання саракагадовага юбілею (калектыў заснаваны быў у 1972 годзе). У такім выпадку схацелася больш напісаць пра „Арэшкі”, якіх рэпертуар — *класіка* нашага народнага фальклорнага спеву.

## Час хутка мінуў

— Наш спеў заўважылі на вясковых дажынках і падказалі нам заснаваць фальклорны калектыў. Адбор рабіў у нас Аляксандр Лукашук і ён вучыў нас правільнаму спяванню, а пасля дапамагаў нам Сцяпан Копа. Спачатку выступала ў нас нямнога асоб, а пасля далучыліся малодшыя жанчыны, — заявіла Тацяна Гурын, якая спявае ў калектыве ад самога пачатку.

Тады ў вёсцы было многа жанчын ахвотных спяваць у фальклорным калектыве, але пасля праверкі галасоў і музычных здольнасцей выбраны былі асобы з найлепшымі галасамі.

— Дзейнічаў у нас таксама тэатральны гуртоК. Калі штораз менш асоб стала ў ім займацца, драмгурток спыніў дзейнасць. Мы, малодшыя жанчыны, далучыліся да вакальнага калектыву і выступалі разам са старэйшымі ад нас кабетамі. Нашым кіраўніком была Ніна Аврчук, — паінфармавала сённяшняя кіраўнік „Арэшкаў” Надзея Грушэўская. — Пазней старэйшыя жанчыны па сямейных прычынах і з-за стану здароўя сталі адыходзіць і на многія гады замацаваўся склад з дзевяці асоб.

Пасля з „Арэшкаў” адышлі дзве Ніны Аврчук і Вольга Раманюк, а да спынення дзейнасці калектыву фальклор роднай вёскі расслаўлялі Надзея Грушэўская, Надзея Андрасюк, Надзея Грош, Марыя Скепка, Тацяна Гурын і трэцяя Ніна Аврчук.

„Арэшкі” вельмі многа разоў выступалі перад нашай беларускай публікай, спявалі таксама на польскіх і іншых мерапрыемствах перад публікай розных нацыянальнасцей у Варшаве, Пунску, Драгічыне, Сувалках, Чорнай-Беластоцкай, Сопаце і іншых мясцовасцях. Калектыў з Арэшкава тры разы выязджаў на гастролі ў Беларусь, два разы спяваў у Гродне і адзін раз у Мінску, выступаў таксама ў Луцку на Украіне. Аднак найчасцей „Арэшкі” выступалі на фестывалі „Беларуская песня”.

— У час „Беларускай песні” часта мы займалі прызавыя месцы. Выступалі з агулькамі, вясельнымі і хрысцінымі песнямі, спявалі жніўныя творы, калядкі і многа іншых народных песень, — успаміналі арэшкаўскія спявачкі. — Мы хацелі падтрымаць арэшкаўскую традыцыю спявання і захаваць старыя песні для наступных пакаленняў. Шкада толькі, што малодшыя не гарнуліся да калектыву.

Гайнаўскі дом культуры яшчэ ў 1990-х гадах выдаў „Арэшкам” аўдыёкасету, а некалькі гадоў назад аб'яднанне „Музей малой айчыны ў Студзіводах” — кампакт-дыск. Больш за 150 твораў з рэпертуару арэшкаўскага калектыву запісаў і разам з нотамі выдаў Сцяпан Копа.

— Гэты спеўнік — рэзультат шматгадовага збірання песень з рэпертуару „Арэшкаў”, — гаварыў Сцяпан Копа, шматгадовы інструктар калектыву.

Засталіся памяткі па „Арэшках”, але я думаю, што ўсё ж такі не трэба гаварыць аб гэтым калектыве ў прошлым часе, так, быццам ён не меў шанцаў аднавіць сваю дзейнасць.

— Добра было б, каб маладыя нас падмянілі, але няма ў Арэшкаве такіх маладых, якія схацелі б спяваць і выступаць з неапрацаваным фальклорам. Мы ж маглі б дапамагчы малодшым развучыць арэшкаўскія песні, — гаварыла Надзея Грушэўская.

Хаця зараз жанчынам з Арэшкава не ў галаве выступы на песенных мерапрыемствах, то ўсё ж такі можна спадзявацца, што „Арэшкі” не сказалі апошняга слова і яшчэ будуць выступаць на сцэне, хаця і на кароткі перыяд і нават у акроеным складзе, і будуць расслаўляць арэшкаўскі фальклор і нашую песню.

Дзякуем „Арэшкам” за іх амаль саракагадовую дзейнасць на ніве беларускай культуры, за спяванне нашых фальклорных песень, калі сотні раз развесялялі і рабілі прыемным жыццё публіцы не толькі на Падляшшы, але і ў розных месцах Польшчы і за межамі нашай краіны.

## Новагодняя сустрэча ў Сопаце

Традыцыйна, як што год, беларусы з Прымор'я прывіталі Новы год 14 студзеня ў сваёй «Хатцы» ў Сопаце, якая месціцца па вуліцы 3-га Мая. Можна сказаць, што сустрэча, як заўсёды, прыпамінала сямейнае спатканне пры шчодрым застоллі. Так прынамсі здавалася не толькі мне, але і беларускім студэнтам з Мінска.

Найсамперш, перад афіцыйнай часткай сустрэчы, удзельнікі паводле каталіцкай традыцыі падзяліліся аплаткай, а па старадаўняй беларускай — куццёй, жадаючы кожнаму здароўя, рэалізацыі мараў і ўсяго, што найлепшае можа быць здзейснена ў Новым годзе.



Старшыня «Хаткі» Лена Глагоўская, каб прыпомніць як калісь беларусы святкавалі Раджаство Хрыстова, прачытала артыкул «Каляды — свята памерлых» Мар'яна Пецюкевіча, апублікаваны ў 1960-х гадах у «Ніве».

А потым кожны ўдзельнік сустрэчы расказаў пра святкаванне Каляд калісь і цяпер. Вядома, эмігранты з Беласточчыны ўспаміналі праваслаўнае святкаванне Раджаства Хрыстова ў вёсках Сакольшчыны, Гайнаўшчыны і Бельшчыны. Аказваецца, што не ўсюды ставілі ёлкі, прытым рыхтавалі няцотную колькасць страў. А я памятаю, што заўсёды ў нас (у Махнатым, што на Гайнаўшчыне) у час Каляд стаяла ёлка, упрыгожаная цукеркамі, сваёй работы каляровымі ланцужкамі і перш за ўсё вельмі духмянымі яблыкамі, і што мама старалася прыгатаваць дванаццаць страў.

Пра сучаснае святкаванне Каляд у Беларусі расказалі студэнты з Мінска. Іх аповед сведчыць аб тым, што цяпер святкаванне там і тут прыблізна аднолькавае.

Да сустрэчы і пабачэння прынамсі ў такой сям'і за год. З такімі пажаданнямі сябры раз'ехаліся па хатах.

**Міхась КУПТЭЛЬ**

Беласток

## Новыя лямпы ў цэнтры горада

Зараз вечарам і ноччу ў Беластоку свецяць прыгожыя стылёвыя электралямпы на Кіеўскай, Млыновай, Ліпавай, Суражскай вуліцах і Рынку Касцюшкі, а таксама на скверыку пры вуліцы Мальмеда. Яны на слупах з дэкаратыўнымі элементамі.

Напраканцы 2011 года больш сучаснае асвятленне паявілася на адрэзку вуліцы Ліпавай перад крамай „Фінезія” ды каля скрыжавання з вуліцай Гарохавай і Чанстахоўскай. Лямпы на вуліцы Ліпавай выклікаюць захапленне.

Варта дадаць, што на вуліцы Ліпавай будуць падсветлены (ілюмінаваны) два прыгожыя будынкі: камяніца пад карыятыдамі і палацык Новіка (сядзіба ВКУ). Па вуліцах у цэнтры Беластока прыемна хадзіць.

**(яц)**

# У Палічнай калядавалі...

Тэкст і фота Уладзіміра СІДАРУКА

**20 студзеня (на другі дзень Вадохрышча) Кляшчэлеўскі дом культуры арганізаваў у Палічнай мерапрыемства „Вечар калядак”, ініцыятарам якога выступіла таварыства „Стакротка”. Пачало яно рэалізаваць праграму Рэгіянальнага грантавага конкурсу Польска-Амерыканскага фонду свабоды „Раўняць шанцы 2011” пад загалоўкам „Сямейныя сувязі, запісаныя ў карціне”. Імпрэза пачалася ў 17 гадзін. На сцэне выступілі школьнікі Пачатковай школы ў Кляшчэлях, гурты „Жэмэрва” і „Жэўжыкі” з Бельска-Падляшскага, „Вішанька-Чарэшанька” з Сухавольцаў, дуэт Віталь Саха і Валянціна Марціновіч ды калектыў „Даранасіца” з Хмялева каля Жабінкі. У сустрэчы ўдзельнічала бурмістр Кляшчэляў Ірэна Негярэвіч. Ролю вядучага выконваў дырэктар мясцовага дома культуры Лявон Алексяюк. Першым на сцэну выйшаў дзіцячы калектыў з Пачатковай школы ў Кляшчэлях. Малечы запрэзентавалі навагоднюю батлейку (на польскай мове). Затым выступіла „Жэмэрва” пад мастацкім кіраўніцтвам Дарафея Фіёніка.**

— З нагоды Вадохрышча, — сказаў Дарафей Фіёнік, — на працягу трох дзён мы арганізавалі мерапрыемствы, у якіх „Жэмэрва” прэзентавала багаты рэпертуар даўнейшых калядак, а калектыў „Жэўжыкі” з белліцэя пад кіраўніцтвам маёй сястры Ані Фіёнік вяртаўся да традыцыі адзначэння „Гагатухі”. Разам з намі выступае таксама калектыў „Даранасіца”, з якім кантактуем ад некалькіх гадоў. Асаблівай увагі заслугоўвае абрад „Хрыстка”, які спадарожнічаў Шчодраму вечару, што паказалі „Жэўжыкі”. Традыцыя абраду дагэтуль захавалася адно ў Арэшкаве. Пачынаецца так: калядоўшчыкі („пшэбераньцы”) нясуць з сабою галінкі з дубовым зялёным лісцем, апасаныя чырвонай стужкай. Гаспадароў віншуюць такімі словамі: „Панна Марыя на прыстолі стояла, два крыжы трымала, а трэтым кадыла. Кадыться люды, хто в цэркву будэ, хто нэ будэ... Богу свечку ставтэ, а нам пірожок дайтэ. Клё, клё, клё, одчыняйтэ окно. На тобі хрыстка, дай нам пірожка”. Пасля віншаванняў калядоўшчыкі перадавалі гаспадару „хрысток”, а ён аддароўваў падарункам. Канцэрт „Жэмэрвы” і „Жэўжыкаў” доўжыўся каля гадзіны часу. Апрача вышэйзгаданага абраду прагучэлі таксама традыцыйныя віншаванні з нагоды нараджэння сына, вяселля, дзявочай варажбы ў Шчодры вечар (кіданне праз плот туфламі ці лічэнне астраколаў у плоце (пара — лішка). Старэйшаму пакаленню ўсё гэта ажывала ў памяці. Прыпаміналіся юнацкія гады, маладосць...



Наступнымі выступілі жанчыны з гурту „Вішанька-Чарэшанька” з Сухавольцаў, затым дуэт Віталь Саха і Валянціна Марціновіч, якія выконвалі калядкі са свайго наваколля. Аўдыторыя ім памагала. Такім чынам атрымалася супольнае калядаванне.

Вечар з калядкамі завяршыў калектыў „Даранасіца”. Госці з Беларусі, як казалі самі, прэзентавалі палічанскай публіцы свае абрады, песні ды танцы, забаўлялі вясёлымі жартамі. Каляровыя народныя ўборы, звонкія галасы і вясёлая музыка гармоніка зачаравала прысутных, аб чым сведчылі працяглыя, бурныя апладысменты. Самадзейнікі не заставаліся ў даўгу — павіншавалі з наступіўшым Новым годам ды падзякавалі за сардэчны прыём словамі развітальнай песні: „дзякуй тому дому, пуйдэмо дадому”. Варта адзначыць, што арганізатары, у адпаведнасці з традыцыяй абдароўвання навагоднімі падарункамі, уручылі калектывам пакеты з ласункамі. Асаблівай увагі заслужыў ляснічы Канстанцін Ваўрусевіч з лясніцтва ў Кляшчэлях, які абслугоўваў вёску Палічна на працягу 27 гадоў. Па той прычыне, што з новага года ліквідавалі ягоны штат у Кляшчэлях, спадара Ваўрусевіча перавялі на пасаду ляснічага ў Пілікі. Рада горада і гміны ў Кляшчэлях за станоўчыя шматгадовыя кантакты ў карысць мясцовай грамадскасці ўзнагародзіла яго ганаровай граматай, у якой падзякавала за належнае супрацоўніцтва і пажадала моцнага здароўя ды поспехаў у працы на новай пасадзе.



Мастацкая частка закончылася, але гэта не быў яшчэ канец сустрэчы. Арганізатары запрасілі гурты і гасцей на святочны пачастунак. Паколькі ўдзельнікаў было шмат, арганізавалі „шведскі стол”. Калі госці раз'ехаліся, таварыства „Стакротка” запрасіла да стала жыхароў вёскі, якія засталіся ў святліцы. Прыемна было пагасцяваць у такой кампаніі. Сардэчная, сямейная атмасфера, шмат песень і тостаў спадарожнічалі да апошніх хвілін майго ад'езду. Пакідаў я кампанію ў поўным разгары. Хацелася б, каб такая атмасфера спадарожнічала жыхарам Палічнай не толькі ў святочны вечар, але на працягу ўсяго года, штодзень. Таго ад шчырага сэрца жадае аўтар тэксту.

## Дзе яшчэ можна купіць „Ніву” з календаром?

У палове студзеня гэтага года я пацікавіўся, дзе ў Беластоку можна купіць „Ніву” з календаром на 2012 год. Схадзіў я на Галоўны паштамт па вуліцы Варшаўскай, 10 (тут ёсць стэнд „Рух” з прэсай) і ўбачыў, што „Ніву” з календаром прадалі. У аддзяленнях на Рынку Касцюшкі і па алеі Пілсудскага прадалі ўсяго па 2 экземпляры. Дадам, што ўсе паштовыя аддзяленні ў горадзе атрымалі па 10 экземпляраў.

Найлепш прадаюць беларускі штотыднёвік у кіёсках „Рух”. У адным з іх, па вуліцы Браніцкага перад сядзібай павятовага старосты, прадалі 20 экземпляраў „Нівы” з календаром. І я не здзіўляюся. У гэтым кіёску 13 студзеня г.г. я за шыбай убачыў „Ніву” з надпісам „Niwa” z kalendarzem”.

На пасёлку Выгода ў кіёску „Рух” каля скрыжавання вуліц Васількоўскай і ген. Андэрса прадалі 23 экземпляры „Нівы” з календаром і асталося ў продажы яшчэ два.

У кіёску „Рух” па вул. Ліпавай побач прадуктовай крамы „Ратушовай” атрымалі 20 экземпляраў і прадалі сем. У газетна-часопісным кіёску „Рух” ля скрыжавання вул. Сянкевіча і вул. Бялуўны прадалі пяць экземпляраў і маюць яшчэ пятнаццаць. Добра справілся з продажам нашага беларускага тыднёвіка з календаром у кіёску ля скрыжавання алеі Пілсудскага з вул. Чанстахоўскай — прадалі ўсе 20 экземпляраў. У другім, крыху далей ад вышэйзгаданага скрыжавання ў напрамку вул. Сянкевіча было 5 экземпляраў і маюць яшчэ два.

У пункце продажу „Рух” па вул. Сянкевіча побач моста на рэчцы Белай маюць 3 экземпляры, а прадалі 17.

У прыватным кіёску ў пачатку вул. Сянкевіча мелі некалькі экземпляраў „Нівы” з календаром і прадалі іх на працягу аднаго тыдня.

У прэсавым салоне „Рух” на Рынку Касцюшкі маюць 20 экземпляраў „Нівы” з календаром.

Аказваецца, што патрэбная была мая інфармацыя „Дзе купіць «Ніву» ў Беластоку?”, якую апублікавалі напрыканцы 2011 года. Чытачы ўжо ведалі, дзе даступны ў продажы наш тыднёвік.

**Янка ЦЕЛУШЭЦКІ**

# Фальваркі

Тэкст і фота
Аляксандра ВЯРБІЦКАГА

**Шаша з Заблудава ў Міхалова перасякае наўскасяк вуліцу Фальваркаў-Тыльвіцкіх. На гэтым перасячэнні два цэментныя праваслаўныя крыжы. На адным з іх, з 1953 года, аптымістычны надпіс „Имейте веру в Бога и никакое зло вам не будет вредить”. На другім помніку малітва аб ратаванні ад усялякага зла на фоне вялікай шыльды пахавальнага бюро...**


Крыж у Фальварках-Тыльвіцкіх

Падаюся вуліцай у напрамку Малынкі. Фальваркі-Тыльвіцкія выглядаюць у агульнасці падобна як і іншыя ваколбеластоцкія вёскі. Некаторыя хаты пустыя, некаторыя паказваюць памяркоўную заможнасць іхніх уладальнікаў, іншыя — заможнасць больш ганарыстую. За панадворкамі шмат слупоў, на якіх раней трымаліся стадолы. Хлявы ў цяперашні час служаць галоўным чынам апірышчам кастроў, якія закрываюць сцены між дзвярмі амаль пад сам дах — памяркоўная зіма яшчэ не прымусіла гаспадароў да большага расходу дроў. У гэтай частцы вёскі стаіць самотны на выгляд будынак грамадскага прызначэння без шыльды, з раскіданым побач калодзежам; пазней даведаюся, што гэта вясковая святліца...

Вяртаюся назад, перасякаю згаданае раней скрыжаванне вуліцы з шашой у Міхалова. Каля крамы двух мужчын, пытаю ў іх пра будынак побач крамы, якога выгляд паказвае, што не быў ён прадбачаны для жылых мэт. Мужчыны інфармуюць, што была там калісь чатырохкласная школа, а цяпер там нехта жыве. Адзін з мужчын ад'язджае на трактары, запрэжаным у воз з малочнымі бітонамі. Ад вельмі рэдкіх панадворкаў можна пачуць пах кароў, які нясе з сабою подых своеасаблівай, не толькі фізічнай, але ў нейкай ступені і сентыментальнай, цеплыні ў сырую зімовую раніцу; калісь жа дабытак быў у кожнага гаспадара... Пункт прыёму малака з шыльдай гайнаўскага малочнага кааператыва яшчэ працуе ў Фальварках-Малых.

Фальваркі-Тыльвіцкія, Фальваркі-Вялікія і Фальваркі-Малыя складаюць па сутнасці адну вялікую, працяглую вёску, нешта накшталт ланцуга вёсак паміж Дубровай і Саколкай, вуліцы якіх распалажаны ў адну лінію; падобны ланцужок цягнецца ад Сухаволі цераз Карыцін да Чорнага Стоку. Назва Фальваркі — афіцыйная, у народзе яны называюцца Подваркамі. А гэта на адно выходзіць, адно той выхад з розных моўных бакоў. Як падае энцыклапедычны даведнік „Народная культура Беларусі”, фальварак з'яўляўся невялікім пасяленнем у некалькі *двароў*, значыць — былі гэта *подваркі*. Фальваркі былі асновай феадальнага гаспадарання, яны пастаўлялі сельскагаспадарчыя вырабы ў гарады і на вываз; магчыма, што падзаблудаўскія *Фальваркі* былі сыравіннай базай Заблудава...


Крыж у Фальварках-Малых

Запар з набліжаннем у бок Беластока мяняецца і канфесійны характар Фальваркаў — у Фальварках-Тыльвіцкіх сустракаюцца крыжы абодвух мясцовых абрадаў, у Фальварках-Вялікіх крыху каталіцкіх крыжоў, затое ў Фальварках-Малых паўдзесятка немалых мураваных капліц. Дарэчы, у гэтых вёсках на дошках аб'яў калядныя пажаданні ад парламентарыяў, арыентаваных на тутэйшы каталіцкі электарат; у час апошніх парламенцкіх выбараў Права і Справядлівасць набрала ў Заблудаўскай гміне больш за палову галасоў.


Капліца ў Дабрынёўцы

Праязджаючы на аўтобусе паміж Заблудавам і Міхаловам, ды спаглядаючы на тапаграфічную карту наваколля Заблудава, карціла мяне дарога напрасткі ад меднавіта Фальваркаў-Тыльвіцкіх амаль у Кур'яны: ці не зручней было б дабірацца па той дарозе ў Беласток, заміж калясіць цераз Заблудаў. Аказваецца, што дарога цераз усе Фальваркі не надта якасная, вуліцы ў вёсках адносна вузкія, дарожнае палатно з рознага матэрыялу і рознай якасці.

У Фальварках-Малых прыцягвае ўвагу новенькі, быццам з-пад іголкі, аб'ект. Гэта вясковая святліца, мабыць ранейшая школа, абноўленая з выкарыстаннем еўрасаюзных сродкаў, побач якой па-сучаснаму абсталяваная пляцоўка для дзіцячых гульняў.

Усе названыя раней Фальваркі, гэта звычайныя вёскі. Інакш маецца справа з чарговай вёскай — Дабрынёўкай. Гэта нешта накшталт гарадка — тут красуецца некалькі жылых блокаў; відаць была там у не надта далёкім мінулым нейкая форма калектыўнага гаспадарання. Што там цяпер — не ведаю, бо калі я сфатаграфаваў вялікі будынак кшталту фальварачнай аборы, з іншага будынка выбегла жанчына з запытаннем, хто дазволіў фатаграфаваць гэтакі аб'ект ды яшчэ сунула мне ў рукі мабілку з голасам нейкага прэзаса, які таксама патрабаваў нейкага дазволу; магчыма, што там цяпер разводзіцца нейкая сакрэтная парода фаўны або і флоры...

Аднак краявід Дабрынёўкі пазначаны навізной — за вёскай высіцца сучасны вятрак, ветравая электрастанцыя, здадзеная ў карыстанне паўтара года таму. Пры слабым ветры яе генератар можа забяспечыць токам частку Дабрынёўкі, але пры больш магутным ветры — яшчэ Рахвалаўку і ўсе Фальваркі. База ветрака мае вышыню ў пяцьдзесят метраў, а размах крылаў машыны роўны амаль палове гэтай вышыні — 24 метры. Гэтая электрастанцыя можа даць у год столькі току, што для яго вырабу традыцыйным чынам трэба было б яшчэ вырабіць і шмат тон шкодных адкідаў.


Капліца ў Фальварках-Малых

## З Новым рок(ам)!

У варшаўскім клубе „Ветліна” 13 студзеня адзначылі Новы год паводле юліянскага календара. Галоўнай зоркай быў бярозаўскі гурт „Б.Н.”. У мерапрыемстве ўдзельнічалі заўзятары беларускага рока. Па-над галовамі луналі бел-чырвона-белыя сцягі. Клуб „Ветліна” — невялікі, цяжка было прайсці, не штурхаючы людзей, якія чакалі ў чарзе да бара ці туалета. Аднак Пётр Дудановіч, арганізатар, цешыўся. Яму ўдалося прыцягнуць на канцэрт публіку без ніякай рэкламы.

— Да канца я не ведаў ці ўдасца запоўніць гэтую невялікую залу. Мерапрыемства мы рабілі без ніякай прамоцыі, без фінансавай падтрымкі. Але, як бачым, прыйшло многа людзей паслухаць добрай музыкі. Гэта мяне цешыць.

Пётр Дудановіч ведае як беларуская музыка можа захапляць. Ён сам, пасля пабыўкі на „Басовішчы”, вырашыў паступіць на беларускую філалогію. Раней яшчэ выступіла сейненская рэгэ-капэла „Но Лого”. Прысутнасць гуртоў, так розных па стылі, ды яшчэ ў юліянскі Новы год, выклікала пытанне: як гэта сыгралася?

— Канцэпцыя тут такая: гурт „Но Лого” з далёкай польскай правінцыі. „Б.Н.” таксама з правінцыі, з беларускай Бярозы. Не ведаю, ці ўсе ў Віцебску ведаюць, дзе знаходзіцца мястэчка Бяроза. Я думаю, вельмі цікава паказаць, што вартасная музыка ствараецца не толькі ў Менску ці Варшаве, але ўсюды... Бярозаўскі гурт у асноўным спяваў песні ўжо добравядомыя слухачам: „Дажджамі”, „Крылы”, „Канюшня”. Аднак у канцы фанаты прымусілі гурт заспяваць нешта з новага дыска.

— Праца над новым альбомам ужо на завяршальным этапе, — сказаў Максім Ліцьвінец, гітарыст: — Мы спадзяемся, што CD выйдзе ў свет увесну.

Рок-музыканты гурту „Б.Н.” плануюць канцэрты ў Беларусі, Украіне і Польшчы, і ўжо сёння запрашаюць на іх усіх сваіх паклоннікаў і фанатаў.

**Уршуля ШУБЗДА**

## Іконы ў Ольштыне

Пад Каляды Музей Вармії і Мазур паказаў іконы са сваіх фондаў. У іх ліку была паказана м.інш. ікона з выявай Ражджаства, напісаная ў Расіі ў XVII/XVIII стагоддзі, на якой прастаўлены Святое Сямейства, анёлы, тры цары, пастыры.

Іншай іконай, таксама напісанай у Расіі ў той жа час, з'яўляецца Казанская ікона Багародзіцы. Яе арыгінал быў знойдзены ў Казані пасля пажару ў 1579 годзе. Культ гэтай іконы спачатку меў мясцовы абсяг, аднак хутка пашырыўся. Былі пабудаваны Казанскія саборы ў Маскве і Пецярбургу. Ікона ў 1904 гаду была ўкрадзена і спалена зладзеем. У 2004 годзе копію Казанскай іконы Багародзіцы, якая захоўвалася ў Ватыкане, прывёз у Расію папскі дэлегат Вальтар Каспер; яе годам пазней патрыярх Алексій перадаў аднаму з казанскіх храмаў. Ольштынская ікона з'яўляецца копіяй арыгінала.

Была таксама паказана копія Ціхвінскай іконы Багародзіцы. Яе арыгінал, згодна афіцыйнай царкоўнай версіі, напісаў евангеліст Лука. Спачатку захоўвалася яна ў Антыёхіі, пасля цераз Ерусалім і Канстанцінопаль трапіла ў сяло Ціхвін Ноўгарадскай епархіі. У час Другой сусветнай вайны ікона была вывезена ў ЗША, адкуль у 1995 годзе зноў вярнулася ў Расію, а ў Ціхвін у 2004 годзе.

**Андрэй ГАЎРЫЛЮК**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.iig.pl)
www.e-zorka.pl

зорка
для дзяцей і моладзі

# Шосты клас — адзіны ў сваім родзе!



Фота Ганны Кандрацюк

Якія справы і мары ў хлапцоў шасцікласнікаў? Усе яны, вядома, спартсмены.

У нашых сяброў з беластоцкай „чацвёркі" хапае энергіі на ўсё: на навуку, тэатр, музыку і, вядома, на спорт. Вось „на добры дзень" нам прадставілі фіналіста прадметнага конкурсу па беларускай мове Янку Конюха. На раённым этапе Ясь набраў амаль максімальную колькасць балаў. У групе яшчэ адзін фіналіст па гісторыі — Паўлік Савіцкі. У Паўліка яшчэ адзін поспех. Цягам апошніх дзён ён прайшоў кастынг выканаўцаў для музычнага спектакля пра Янушa Корчака ў Падляшскай оперы і філармоніі. Хлапец будзе іграць ролю выхаванца легендарнага лекара і прыяцеля дзяцей.

— А я буду выступаць у гэтым спектаклі ў ролі акардэаніста, — дадае Лукаш Лісоўскі.

Шосты клас — адзіны ў сваім родзе. Тут пераважае мужчынскі род, карацей, на дзевяць асоб у беларускай групе толькі адна дзяўчынка — Зося Масальская. Як не цікава, нашы сябры ўсе яшчэ вучацца ў музычных школах і гуртках па класе гітары, раяля, акардэона, перкусіі. На самай справе, тут можна заснаваць рок-гурт або нонет класічнай музыкі. Творчы дух класа ўжо знайшоў выяўленне.

— Заўтра ў нас спектакль пра „Цара Ірада", — кажуць.

Пастаноўка падрыхтавана ў карнавальным духу. Нашы акцёры перадзенуцца за „Воінаў" і „Смерць".

— А хто сыграе жахлівага Ірада?

— Арцём Яўсенка з пятага класа. (Арцём таксама фіналіст па беларускай мове!).

Разам выступяць дзяўчынкі з трэцяга класа з эцюдам на вершы Віктара Шведа.

Пасля зімовых канікул адкрыюць таксама „беларускую хатку", асобнае памяшканне ў будынку школы. Тут таксама адбудзецца першая прэзентацыя кнігі-альбома: „Ой даўно, даўно", якая якраз пабачыла свет.

ЗОРКА

## Конкурс пра беларускіх літаратараў (5)

Прывітанне, сябры! У нас працяг тэматычнага конкурсу, звязанага з перыядам зімы. Разам з адказамі, калі ласка, пазначце нумар конкурсу.

**1. Сапраўднае імя і прозвішча Янкі Купалы:**

*а) Ян Яноўскі,*
*б) Янка Неслухоўскі,*
*в) Ян Луцэвіч.*

**2. Сапраўднае імя і прозвішча Змітрака Бядулі:**

*а) Змiцер Бядульскі,*
*б) Мірон Бэндэр,*
*в) Самуіл Плаўнік.*

**3. Сапраўднае імя і прозвішча Якуба Коласа:**

*а) Якуб Класкоўскі,*
*б) Канстанцін Міцкевіч,*
*в) Змiцер Міцкевіч.*

**4. Хто з літаратараў-„белавежцаў" нарадзіўся ў месяцы лютым?**

*а) Віктар Швед,*
*б) Надзея Артымовіч,*
*в) Сакрат Яновіч.*

Адказы дасылайце да 5 лютага 2012 г. (найлепш па электроннай пошце на адрас „Зоркі"). Тут разыграем цікавыя ўзнагароды: беларускія кніжкі, CD і гульні.

Рашэнне каляднага конкурсу № 2: на Падляшшы „каляду" адзначалі тры разы: у вілею Божага Нараджэння, у вілею Новага года і ў вілею Вадохрышча (б); жыццёвай энергіі меў паспрыяць аўсяны кісель (а); навагоднія пажаданні можна дасылаць у ноч з 13 на 14 снежня на Радыё Рацыя (в); беластоцкая моладзь цягам мінулага года выступіла 20 разоў са спектаклем „Ой даўно, даўно" (в); елка разам пілой для высечкі дрэў выступае ў гербе Гайнаўкі (в).

Узнагароды — кашулькі з лагатыпам „Зоркі" — выйгралі **Крыстафор Антанюк** з Арэшкава, **Магдаліна Навіцкая** і **Марта Бручко** з Бельска-Падляшскага. Віншуем!

ЗОРКА

## ~ Галерэя ЗОРКІ ~

**1. Імя і прозвішча:** Янка Конюх (ПШ н-р 4 у Беластоку).

**2. Твой любімы прадмет:** беларуская і нямецкая мовы.

**3. У жыцці хачу стаць:** акцёрам.

**4. У сяброў цаню:** калі не перашкаджаюць у маіх пастановах і дзеяннях.

**5. Не люблю:** падману.

**6. Па-беларуску размаўляю:** з сястрой і з настаўніцай беларускай мовы.

**7. Кніжка, якая мяне захапіла:** «Разведчыкі» Джона Фланагана (прачытаў усе дзевяць тамоў!).

**8. Падабаецца мне музыка:** рок-музыка.



Фота Ганны Кандрацюк

**9. Твае ўлюбёныя стравы:** боршч, які спажываем на Куццю перад святам Каляд.

**10. Твой любімы спосаб адпачынку:** спорт, музыка, кніжка; часам размаўляем з сёстрамі на розных мовах: па-беларуску, па-англійску, па-нямецку...

**11. Калі дарасту, хачу жыць:** на Беласточчыне.

## Вершы Віктара Шведа

### Страшыць бабуля

Старая ў маршчынах бабуля
Убачыўшы ўнучку Ганулю
Сказала: Мой мілы Божа,
Як жа ты на мяне пахожа!

Ганула пабегла з плачам
Са скаргаю да маці:
— Мяне бабуля наша
Пастаянна страшыць!

### Сізіфава праца

Настаўнік увайшоўшы ў клас
Чамусьці пачаў выдумляцца:
— Хто ведае, дзеткі, з вас
Што гэта сізіфава праца?

Янка зрабіў намёк,
Што вучні так успрымаюць:
— Калі я вывучы урок —
А мяне не пытаюць.

# „Ой даўно, даўно” запісаныя пяром!

**Калі возьмем у рукі кніжку „Ой даўно, даўно”, яе адразу хочацца гартаць, глядзець здымкі, чытаць подпісы, параўноўваць прадзедаў з сучаснымі нашчадкамі... Гэта дзейнічае як чарадзейнае люстра часу. Так спрацоўвае мастацкае спалучэнне старых і новых фатаграфій, арыгінальны дызайн і прыгожае тэхнічнае афармленне. Пасля чытаем гісторыі, запісаныя гімназістамі. Многія з іх на гаворках паасобных мясцовасцей: Чыжоў, Кнаразоў, Елянкі, Тыневіч, Кашалёў, Рэпіск, Шпакоў, Пасынак, Ляўкова, Семяноўкі, Грабаркі, Бельска... Той, хто ўжо згубіў здольнасць арыентацыі ў падляшскіх гаворках, усё прачытае на польскай мове, паколькі паралельна ідзе пераклад.**

Часта расчароўваюць нас кніжкі, якія нараджающа на аснове фільмаў або спектакляў. У выпадку „Ой даўно, даўно” будзе інакш. Чытач знойдзе тут дапаўненне ўжо вядомага, шмат „нягжэчных” і каларытных сюжэтаў, напрыклад, як у наваколлі Семяноўкі таргавалі самагонкай. У кніжцы такі ж, як на сцэне ў час усіх спектакляў, глыбокі эмацыйны пераказ. Хоць падляшскія гісторыі збудаваны на сямейных здарэннях, у цэласці прамаўляюць як гістарычныя, нашыя, сатканыя з лёсаў праўдзівых людзей. Нашых настаўнікаў і аніматараў культуры магчыма шакіруе шчырая і адважная трактоўка цяжкіх момантаў гісторыі, такіх як беженства, вывазка моладзі на прымусовыя работы ў Германію, пасляваенная пацыфікацыя беларускіх вёсак. Гэтыя справы звычайна, з людскога страху хаваем не толькі перад маладымі, але і перад самімі сабой...

Цягам мінулага года спектакль „Ой даўно, даўно” паставілі дваццаць разоў на тэрыторыі ўсёй Беласточчыны. У кніжцы ўдзельнікі праекта і адначасна аўтары гісторый падзяліліся сваімі ўражаннямі:

Нінка Ваўранюк: *На початку, як мы зачыналі працу з „Кронікамі”, я бы ніколі нэ подумала, што ўдасцэ нам разом тулько зробіці ў короткум часі. Удалося нам одкопаці гісторыі нашых сем'юў і люблю думаці, што коб нэ мы, то людзі позабывалі.*

Лідка Пякарская: *Часом сама собі заздрошчу, што мніэ пошчасьціло прымаці ўдзел в „Хроніках”. Напэвно научылася я, як важнэ в нашым жыцю знаці сімійны гісторыі, як говорыці з людзьмі, коб штось росказалі. А выступы по вёсках заговорылі мэнэ. Вжэ мне нэ страшны холод! Маю надзею, што колісь будэ наступнэ поколене „хронікараў”, якія попросят мэнэ о якісь росказ...*

Гаўрыіл Скаўронскі: *Zrozumiałem, jak wiele dla nich (сям'і - Г. К.) znaczyły rzeczy, do których my dzisiaj nie przywiązujemy wagi? Zdałem także sprawę jak wielkie tragedie rozgrywały się w rodzinie każdego z nas.*

Юлія Скаўронская: *Uważam, że ważne jest to, co robimy. Choćby dlatego, że niedługo nasi dziadkowie czy babcie mogą odejść, a wtedy moglibyśmy żałować, że nie zdążyliśmy spytać ich o wszystko to, co chcielibyśmy wiedzieć.*

Дарка Вапа: *У нас было многа рэпетыцыяў, часта вельмі цяжка нам было працаваць. Аднак узнагародай была ўсмешка на тварах нашых дзядуляў і бабуляў, якім цэлае жыццё праляцела перад вачыма. Мы выступілі ў многіх вёсках, кожны раз людзі прымалі нас цёпла. Добра, што мы ўзяліся за такі праект, таму што гісторыі нашых сем'яў не будуць забытымі. Спадзяюся, што кніжка будзе памяткай для нашых бабуляў і дзялуляў.*

А мы спадзяемся, што кніжка „Ой даўно, даўно” будзе добрым прыкладам для іншых гімназістаў і ліцэістаў, і падказкай, каб у жыцці „беларускаць” не спалучалі адно з дэкламатарскімі і песеннымі конкурсамі, каб яшчэ пацікаваліся гісторыяй сваёй сям'і, аколіцы, айчыны. Каб пазнавалі гаворкі вёсак, адкуль выйшлі іх бацькі, бо гэта нашае багацце.

**ЗОРКА**

*Ой даўно, даўно*, Аб'яднанне ў карысць навучання дзяцей і моладзі беларускай мове АБ-БА, апякун праекта Аліна Ваўранюк, Беласток 2011.

Фота Ганны Кандрацюк

# Музыка з кайфам

## З пушчы ў філармонію

Фота Пётра КАНІ

Калі жывеш пасярэдзіне лесу і займаешся жыццём яго жыхароў, вельмі складана знайсці сабе месца ў натоўпе людзей, дзесьці ў цэнтры горада. Адам Вайрак ужо з 1990-х гадоў жыве ў Белавежскай пушчы ды піша артыкулы для прэсы і інтэрнэту. Такі „зялёны” з яго журналіст. Ахвотна мяняе пушчу толькі на іншыя цікавыя ў прыродазнаўчым плане месцы або едзе туды, дзе трэба змагацца за ахову прыроды. На апошніх выхадных зрабіў ён вылучэнне для дзяцей і меламанаў.

Наш пушчанскі эколаг адзначыў, што задача перад ім з'явілася небывалая, бо ўпершыню стаяў перад сімфанічным аркестрам і супольна з сапраўдным дырыжорам вёў сур'ёзны канцэрт у філармоніі, а дакладней у Падляшскай оперы і філармоніі, дзе з 20 па 22 студзеня праходзіў „Карнавал жывёл”. Назва невыпадковая, бо штуршком для ўсяго мерапрыемства стаў аднайменны твор французскага кампазітара Каміля Сен-Санса. Гэты геніяльны парыжанін жыў на пераломе XIX і XX стагоддзяў, а сваю заалагічную фантазію напісаў у 1886 годзе. Выбар чатырнаццаці мініяцюр стаў асновай для сустрэчы з сімфоніяй і з сапраўдным любіцелем прыроды. Хаця Сен-Санс, пішучы „Карнавал жывёл”, распавядаў гукамі пра такіх звяроў як леў, асёл ці кенгуру, то пушчанскі канферансье пашукаў аналогій і дзякуючы таму на фотаздымках паявіліся зубры і іншыя не толькі белавежскія, але блізкія нам, жывёлы. Найважнейшае, каб ведаць сваіх суседзяў і ўмець з імі жыць. Са сцэны плылі гукі аркестра, фартэпіяна, клавесіна. У таварыстве звяроў Сен-Санса паявіліся таксама і іншыя, бо жывёльны свет у музыцы намнога багацейшы, таму побач „Зязюлі”, „Льва”, „Слана” на лясную прагулку з беластоцкай публікай выйшлі „Мядзведзь” дзядзькі Гайдна, які гучаў сем хвілін, і „Жаба” Бібера, што рагатала пятнаццаць секунд! Шмат музычных неспадзяванак падрыхтавалі дзецям і дарослым музыкі, а таксама Адам Вайрак, які распавядаў пра свае сустрэчы з дзікімі звярамі і „прадаваў” цікавінкі. А дзеці глядзелі канцэрты ў незвычайных масках, паколькі прафесійныя грымёркі размалявалі ім твары ў дзікую звярыну. І так класіка можа пасябраваць з прыродай. Цікава ці знойдуцца такія інспірацыі ў сучаснай музыцы? Абяцаю пашукаць!

i_basovka@o2.pl

# Польска-беларуская крыжаванка № 5

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку”. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

Адказ на крыжаванку № 1:

Звон, ускос, Тора, лімон, нож, апельсіны, печ, фан, як, клямка. Зуб, лапа, кіпень, меч, стол, як, конь, сон, сям'я, сані, як, сняжынка.

Узнагароды, кніжку „Смяшынкі” з аўтографам Віктара Шведа, выйгралі **Марцін Аўярчук**, **Моніка Раманюк** з Арэшкава, **Эва Саковіч**, **Кацярына Мучко**, **Паўліна Лаўнічук**, **Карнэлія Барэчка** з Нараўкі, **Мартына Пякарская** з Нарвы, **Караліна Кавэцкая** з Бельска-Падляшскага, **Мацей Цілюлька** з Беластока і **Веранiка Пташынская** з Дубін. Віншуем!

| | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Luty / Łatka | | | | | Jerzy / Norka | | Mama / Komórka | | | | |
| | | | | Noga / Talia | | | | | Cypr / Autor | | Park / Mapa |
| Marzenie / Jenot | | | Stój! | | | | Sum / Marek | | | | |
| | | Jak / Ubezpieczenie | | | | | | | | | |
| | | Tak | | | | Art | | | | | |
| | Honor / Twój | | | | | | Zrąb, krawędź | | | | |
| | | | | | | Dar | | | | | |





Язэп КАРПЮК

* * *

*Як бы то крыху здурнець,*
*каб рэальна на гэты свет не глядзець?*

* * *

*Нос такім характарам уладае:*
*страўніку часта праблемы стварае.*

* * *

*Каб ад знішчэння свету чалавецтва*
*намер адвярнуць,*
*спярша трэба чалавеку*
*яго тоеснасць звярнуць.*

* * *

*І на пераход з зямлі да неба*
*Візу выкупіць трэба.*


Зінаіда КАНДРАЦЮК

## Самота

*Нядобра быць аднаму ў старасці:*
*доўгія дні і даўжэйшыя ночы.*
*Не будзеш гаварыць да сцяны!*
*Падумала бабуля выйсці з дому:*
*пачула музыку і песні людзей.*
*Пайшла ў клуб сеніёраў,*
*затанцавала, тупнула нагой —*
*нават добра йдзе ёй з дзядулем!*
*Патанцавалі і выйшлі з клуба.*
*Пан кажа: „Падвязу я цябе!"*
*„Пайду я сама, яшчэ не сляпая!"*
*Ён кажа: „Будзеш, хіба, ты мая!"*
*Прыйшлі яны дахаты, сталі размаўляць,*
*Пра сваё жыццё расказваць.*
*Не агледзеліся, як стала світаць.*
*Добра ім было ўдвое: „Давай пажэнімся!*
*Калі хочаш са мною быць,*
*я не буду больш ні піць, ні курыць!"*
*Падружылі часу нямнога,*
*Павянчаліся. Піць перастаў,*
*а курыць кінуць не можа.*
*Вось такое жыццё, не дай Божа.*


Ніна БРУЧКО-АНДЖЭЮК

## Спяшу

*Бяжыш ты хуценька, часок,*
*а я ганю цябе, ганю*
*хвіліна за хвілінаю*
*і ўсё спяшаю — куды, чаму?*
*Успела вырасці з дзяцінства,*
*згуляла маладасць у волю*
*дарослыя гады — як вецер у полі*
*ўзляцелі птушачкай у нябныя высаты.*
*Успела цешыцца ў пары*
*і дзетак вырасціць на хвалу,*
*унучкаў дачакаць.*
*Жыць трэба ўжо памалу,*



Тэкст і фота Уладзіміра СІДАРУКА

# Два аповеды

**Бабульцы Зіновіі Гіль мінула сто гадоў. Жыве ў невялічкай хатцы ў Дубічах-Царкоўных. Адна засталася. Дзеці абзавяліся сем'ямі, раз'ехаліся па свеце. Зараз нявестка Люба, сядзіба якой знаходзіцца з процілеглага боку вуліцы, наглядае за старэчай. Па яе рэкамендацыі трапіў я да юбіляркі. Было гэта восенню мінулага года.**

На кватэру зайшлі мы з Любай Гіль, нявесткай бабулькі Зіны (*на здымку*). У невялічкім пакойчыку не заспелі старэчы. Драмала ў памяшканні побач.

— Уставайце, госця вам прывяла, — загаварыла жанчына, сунуўшы за занавес галаву. Затым, адвярнуўшыся да мяне, сказала: — Галасней з бабкай гаварыце, недачувае...

Праз хвіліну паказалася невялічкага росту хударлявая жанчына. З-пад каляровай, пад бараду завязанай хусціны высоўвалася пасма белых быццам снег валасоў. Паволі, падпіраючыся кіёчкам, рухалася ў бок стала. І каб не парысаваны глыбокімі маршчынамі твар, ніхто б не сказаў, што бабульцы больш за сто гадоў. Калі прыселася на прыстарэлым фатэліку, я загаварыў:

— Скажыце, бабуля, што вам з мінулага запамяталася. Як даўней жылося... Штосьці пра бацькоў сваіх раскажыце, пра сям'ю... У „Ніву" хачу напісаць...

Бабулька яшчэ праз момант абкідала мяне цікаўным позіркам, затым прамовіла:

— Не ўсё добра памятаю... Гады не тыя... Але, што захавалася ў памяці, раскажу...

## Аповед бабулі Зіновіі

— Нарадзілася ў Грабаўцы 30 кастрычніка 1911 года. Бацькамі былі Іван Васілюк і маці Ганна з роду Кандрацюкоў. З Елянкі выходзіла. З гэтага сужонства нарадзілася ў іх дзевяцера дзетак. Не памятаю ўсіх як клікаліся, бо некалькі памерла. Адно захавалася ў памяці — старэйшым за мяне быў брат Хведар...

У Грабаўцы бацьку лічылі багатым. Меў участак поля, калі астатнія аднавяскоўцы апрацоўвалі палову ўчастка або чацвяртуху. У нас былі шыкарныя забудовы: дом, стадола, хлявы. Мелі пару коней, некалькі кароў і свінак, статак авечак. Жылося нядрэнна. Калі немец ішоў на Расею ў 1915 годзе, разам з іншымі аднавяскоўцамі падаліся ў бежанства. Не памятаю дзе былі, як праходзіла падарожжа і колькі часу заставаліся на чужыне... Дамоў вярталіся ўжо пасля рэвалюцыі. Так бацька рашыў. Неспакойны час настаў. Мяцеж, галадоўка... Матуля супрацілялася, казала, што ёй добра жывецца. Але вымушана была з воляй бацькі пагадзіцца...

У Грабаўцы заспелі зруйнаваную гаспадарку. Печы разабраны. Бацька сам заняўся рамонтам. Лічыўся майстрам на ўсе рукі. У асноўным займаўся шавецтвам. Ад яго я навучылася гэтай прафесіі. Памагала бацьку рабіць драўляныя цвічкі ды выконваць іншыя работы. Неўзабаве зноў сталі на ногі. У 1933 годзе я выйшла замуж. Праз год нарадзіўся Жоржык, затым Ганна і Павел. З прыходам саветаў жыццё перамянілася ў кашмар. Арыштавалі мужа Юрыя. Дамоў не вярнуўся. Засталася адна з трыма дзеткамі. Самаму старэйшаму было тады сем годзікаў. Цяжка было адной. Пачала жыць у Грабаўцы супольна з удаўцом Раманам Тарасюком. У дзявоцтве лічыўся маім нарачоным. Не суджана было нам тады пажаніцца, паколькі бацька наш не пагаджаўся на шлюб. У Рамана была адно чацвяртуха, лічыўся батраком. У яго было трое дзетак — дзве дачкі і сын, у мяне — двух сыноў і дачка. Разам выхоўваліся. Жылі дружна і згодна. Калі немцы прыйшлі, дык вывезлі майго старэйшага брата Тодара на работы ў Нямеччыну. Пасля сябра з Мілейчычаў гаварыў, што брата забілі. У пяцідзесятых гадах бацька збудаваў дом у Дубічах. Добрым здароўем татуль карыстаўся, дажыў жа васьмідзесяці гадоў. Біблію чытаў, хаця грамаце не вучыўся. Быў самавукам. Кажуць, што я ў бацьку ўдалася, бо ў мяне добрае здароўе. Старасці прыйшлося дажываць у адзіноце. Дзеці па свеце раз'ехаліся, абзавяліся сем'ямі... Дачка замужам у Карыцісках. Сын Павел у Вроцлаве. У чатырнаццаць гадоў у свет падаўся. У Грубешаве пачынаў навуку. Бедна па вайне мы жылі. Памятаю, як Паўлік папрасіў купіць яму гадзіннік. Дываны днямі і вечарамі ткала, каб сыночку зрабіць падарунак. Тысячу злотых зарабіла, а калі яму грошы перадала, дык пасля закупкі вярнуў рэшту што да грошыка. Зараз з'яўляецца музыкантам духавога вайсковага аркестра. У яго двое дзетак — сын і дачушка. Абое пажаніліся. А я дачакалася васьмі ўнукаў, дваццаці праўнукаў і сямі прапраўнукаў. Стогадовы мой юбілей адзначалі мы разам з сямейнікамі.

* * *

Дубічы-Царкоўныя наведаў я чарговы раз 13 лістапада. Гэтым разам падаўся да нявесткі бабкі Зіны. Вось што разказала мне 82-гадовая ўдавіца Люба Гіль.

## Аповед нявесткі Любы

— Нарадзілася я ў 1929 годзе ў Карыцісках. У сям'і было нас сямёра дзетак — трох хлопчыкаў і чатыры дзяўчынкі. Адзін брацік памёр. Бацька наш, Дзмітры, меў паўучастка поля і займаўся гаспадаркай. Маці, Ганулія, апекавалася дзеткамі ды памагала бацьку ў час палявых работ. Карыцкіскі лічыліся незаможнай вёскай. Большасць аднавяскоўцаў мелі па паўучастка, адно некалькі чалавек гаспадарылі на ўчастку. Пасля вайны наш і суседаў дом пацярпелі ад пажару. Бацька моцна гэта перажываў і памёр ад інфаркту. Неўзабаве я выйшла замуж у Дубічы-Царкоўныя за Юрку Гіля, узамен яго брат ажаніўся з маёй сястрыцай. Шлюб бралі ў 1954 годзе. Нарадзілася нам чацвёра дзетак — тры дачкі і сын. Нялёгка прыходзілася мне ў жыцці. Паколькі муж быў хваравітым, я займалася і дзяцьмі, і гаспадаркай. У жніўні 2006 года памерла нам дачка Люба. Тры гады пазней ад склерозу сэрца памёр муж. Дзеткі пажаніліся. Засталася адна. Надалей займаюся гаспадаркай. Маю шэсць кароў (чатыры дойныя). Малако пастаўляю на скупку. Небагатая гэта выручка, бо плацяць адно па 80-90 грошаў за літр, але чымсьці трэба займацца. Дзеткі нашы харошыя. Сын Віталь штодзень прыязджае з Гайнаўкі, займаецца жывёлай. Не забывае таксама дачка Ніна са сваім мужам Пятром. І так коціцца нашае жыццё. Старасці дажываю са сваёй цешчай Зіновіяй, як дзве ўдавіцы, — завяршае мая субяседніца.

Пры гэтых словах у дом зайшла бабка Зіновія. Нявестка пачаставала яе свежай стравай і вяндлінай. Калі я развітваўся з гаспадыняй, бабка мяне не пазнала. „Не ўсё добра памятаю... Гады не тыя..." — прыпомніліся мне ейныя ранейшыя словы.

**Хто не ведае пана Францішка Апановіча з Залук у Гарадоцкай гміне? Часта яго бачым на беларускай беластоцкай музычнай сцэне, ужо сівенькага як голуб, сярод сяброў залучанска-гарадоцкай капэлы „Хутар" ці каляровага „Асенняга ліста", са скрыпкай, то зноў у форме пажарніка, якая надта спраўна ляжыць на ім — быццам у ёй нарадзіўся! Гэты нетутэйшы (нарадзіўся ў Супраслі ў 1944 годзе, жыў у леснічоўцы пад Супраслю), а такі свой чалавек доўгія гады быў настаўнікам, дырэктарам залучанскай школы (18 з паловай гадоў). Дзякуючы такім людзям, як спадар Францішак і яго жонка Мар'янна — кіраўнік калектыву „Калінка", надалей жыве гэтая баявітая, непахісная, жывучая вёска ў Гарадоцкай гміне, якая адваявала сваю школу, у якой кожны дашкольнік і вучань вывучае беларускую мову.**

Тэкст і фота Міры ЛУКШЫ

# Пажарнік са скрыпкай



Спадар Францішак заўсёды быў у гушчы грамадскіх спраў, быў ад самага пачатку сябрам гуртка Беларускага грамадска-культурнага таварыства. Сябраваў з „Нівай", пісаў вершы... Цяпер ужо пенсіянер і дзед, ды не ўпільнуеш яго на канапе ў хаце. Музыка, агратурызм (Францішак з Мар'яннай вядуць аграгаспадарку), майстраванне... І ніколі не пнецца ўперад, нават у капэле — ледзь яго відаць гледачам.

— Мой тата меў старую хатку ў Здрайкоўшчыне, 15 кіламетраў адсюль, дык задумалі ў страшны ваенны час перабрацца пад Супрасль. Як прыехалі, так і засталіся, — успамінае спадар Францішак. — Тата дастаў работу дарожніка і свой участак ад Сакалды да Вострава, і дбаў аб дарогу зімой. Зямлі ў нас не было. Маці займалася абшываннем, шыла навакольным людзям — вывучылася шыць у жыдоў. Дома было нас пяцёра дзяцей. Я пасля пачатковай школы і педагагічнага ліцэя ў Беластоку накіраваны быў на работу. Першую работу дастаў у Борках, вёсцы шэсць кіламетраў адсюль. З баркоўскай школы ўзялі мяне ў армію, адслужыў у ваенна-марскім флоце. На канец чэрвеня ў 1966 годзе я быў у Лазнях, а пасля вярнуўся на сваё старое месца ў Боркі, згодна з настаўніцкім уставам. Пасля пазнаёміўся з настаўніцай з Залук, аж з Кялецкага павета (педліцэй у Беластоку быў закрыты ў 1964 годзе). У педліцэі ў Буску-Здрою, дзе вучылася Мар'янна, запісалася на Падляшша на працу аж 11 выпускнікоў. Прыехала тры: дзве ў Вострве працавалі, адна ў Залуках. Пасля першага года працы тыя з Вострава паехалі, а залуцкая засталася. Я ў 1969 годзе перайшоў у залучанскую школу. Школа была новая, вялікая, 145 дзяцей, скажам, адзін з класаў, сёмы, меў 27 дзяцей. Было тады з кім працаваць. Настаўнікі ўсе маладыя, да работы ахвотныя, праца была проста радасцю. Я ведаў беларускую мову. У дзённіках была графа „język ojczysty", і ў 85-95 працэнтаў вучняў была запісана беларуская мова. Ну, калі беларуская мова — дык чаму тут няма прадмета беларускай мовы? Мы беларускую мову тады вярнулі ў Залукі. Таму што кваліфікацый у нас не было вялікіх, штогод высылалі кагосьці праз кураторыю ў Мінск на курсы для настаўнікаў беларускай мовы. І мне давялося быць на такіх курсах, у 1972 і 1974 годзе. Працавалася нам у Залуках добра, прыемна, да часу, калі ўжо трэба было ісці на пенсію — тады, калі скончылася ўжо 35 гадоў работы (я пачаў работу ў 1963 г. — да 1998 года). Неўзабаве, праз 4 гады, і жонка стала пенсіянеркай. Я перайшоў тры школы — Боркі, Лазні і Залукі, а для Мар'янны залуцкая была адзінай. І вось сядзім на гэтай пенсіі... Даслужыліся мы траіх дзяцей — двух дзявок і аднаго хлопца. Ён — прафесійна служыць у арміі, у Жэшаве, быў у Косаве, старэйшая дачка працуе ў Белай-Падляшскай настаўніцай спорту, а наймалодшая — таксама магістр педагогікі...

... Людзі ў нас у Залуках вельмі дружныя. Як толькі хто што добрае задумае, дык уся вёска, як адзін мужык і адна жонка стаюць да работы. У нас і пажарнае дэпо зроблена папалам сіламі людзей, непрафесіяналаў, крама ГСу, зліўня малака, і гэтая школа таксама — адкрытая ў 1964 годзе, дзе ўсе неспецыялістычныя работы зрабілі людзі. Калі толькі што трэба зрабіць, а людзі бачаць, што добрая справа — не адмовіцца. Таксама як з гэтымі нашымі святочнымі шэсцямі — купальскімі, дажынкавымі. Аднавілі мы абычай, абрад. Мы гатовыя да пачынаў, а тут усюды трэба грошай, каб дзейнічаць.

... Я зараз старшыня супрацьпажарнай аховы, выступаю ў „Асеннім лісце" і камерным гурце, які з яго ўзнік — капэле „Хутар". Ну, нашы бабы з „Асенняга ліста" сварацца часам з намі, чаму ж мы гэта „Хутар". Мы вылучыліся з ансамбля „Асенні ліст" для крышку іншых твораў, я б сказў — больш вясёлых, бадзёрых. „Асенні" фальклор больш меланхалічны, не такі з падскокам...

— Вы часта выступаеце і з сатырычнымі вершамі, якія моцна разварушваюць публіку.

— Гаворыце, пэўна, пра той верш пра выплаты, як то грошыкі прападаюць, і пасля галава баліць — гэта верш Аркадзя Леўшука, што быў надрукаваны ў „Ніве". Невялічкі, вясёлы чалавечак. Маю таксама вершы такога дзядка з-пад Орлі, прыязджаў на нашы імпрэзы. Абодва яны ўжо памерлі.

Як пачаліся пісаць вершы ў „Ніву"?

— Быў у нас у школе рэдактар з „Нівы". Мелі мы праблему з тэмпературай у школе — вельмі холадна было зімой, хаця было дзевяць печак. І я рэдактару сказаў па душы, чаму ў нас так холадна зімой. Быў артыкул у „Ніве", ну і дастаў я ад гміны, ад Бараноўскага: чаму ж я гэта сказаў на старонках газеты, а не яму. Людзі, вы ж гэта ведалі раней яшчэ ад мяне, што тут зімой вельмі холадна!.. Вельмі міла ўспамінаю кантакты з „Нівай", нашы сустрэчы. Мы гутарылі, смяяліся... А пісаў я больш на наш конкурс, гмінны. Падпісаў я вершы псеўданімам „Антон Залуцкі". Журы не ведала, што я за адзін. Раз заняў другое месца, раз трэцяе. Прыйшлося „саграшыць" вершапісаннем... Пішу і цяпер, але больш у стол. Напішу — схаваю на памяць, дзецям ці ўнукам штосьці. Адносна публікавання не маю такога імкнення: ох, каб быць у газеце ці дзе, ці першае месца заняць у конкурсе. Раблю гэта для свае ўласнае радасці, а не для пахвалы ці славы. Вось гэты вершык пра сяброўскую бяседу, крыху „чанстахоўскай рыфмай" напісаны...

...Я не беларус, ды жыву тут сярод беларусаў, і ніхто не робіць розніцы. Штодзень у вёсцы, калі са старэйшымі людзьмі гаворым — гутарым на беларускай мове. Але гэтыя старэйшыя, калі прыедзе хто чужы, гаворацьна польскай мове. Калі даведаюцца, што ты ведаеш сваю мову, пачынаюць „па-просту". Так і ў горадзе. Калісь Сакрат Яновіч сказаў, што Беласток — вялізная вёска. Адны святы былі — святкуюць у аднаго суседа, будуць другія — у наступнага будзе весела...

Спадар Францішак збірае рознае „стар'ё" — яно для яго цікавае. Паказвае пажарны шлем (у іх тут у Залуках 25 пажарнікаў-дабравольцаў!), стары матацыкл, сонечны гадзіннік, работу сваёй „залатой ручкі":

— Вось столачак унучкі папсаваўся, трэба яго выправіць (чацвёра ўнукаў у Белай-Падляшскай, двое ўнукаў у Жэшаве і адна ўнучка з намі жыве). Тут мая майстэрня. Усё тут — чаго няма дзе дзяваць, а ўсё можа яшчэ прыгадзіцца. Пайсці купіць што-небудзь — гэта не штука. А калі сам зробіш, то і трэцяму скажаш: не папсуй. Асабліва дзіцяці трэба тлумачыць.

Калісьці дзяцей і школ было многа ва ўсёй ваколіцы, найбліжэй былі ў Каралёвым Мосце, у Валілах... Ва ўсёй гміне больш за дзесяць школ. У Залуках школа была і перад вайною. Па вайне хаты наймалі на класы. У новую школу дзеці прыходзілі з вёсак Навасёлкі, Радунін, Падзалукі, Пяшчанікі. Цяпер вучняў за трыццаць. Не думаў, што такое будзе. Будавалі тыя школы пад лозунгам „Тысяча школ на тысячагоддзе". Каб дзеці мелі як мага кароткую дарогу ў школу. Цяпер тыя добрыя будынкі купляюць нашы новыя польскія паны — пабудавалі дачы, зарабляюць грошы. А свае людзі, што лапатамі працавалі, будуючы гэтыя школы — шкадуюць. Цяпер сваіх дзетак бацькі прывозяць у школу на машынах... Мацнейшы народ быў. Зрыўны да работы.

... Лес побач — гэта наш, цэлы гектар. Калісь трымалі мы пару трусоў, авечак, коз — для малака малым дзецям. Цяпер усе параз'язджаліся... А ты, стары, рухайся, бо заржавееш!

*а я далей спяшу — куды, чаму?*
*Прайшлі гады*
*і старасць наступіла.*
*Мой друг пакінуў белы свет,*
*а я ўвесь час па ім сумую,*
*жыву памаленьку*
*і нікуды ўжо не спяшу.*

## Крану хвіліну

*Украдкам краную хвіліну,*
*каб радасць у душу прывясці,*
*успомніць на момант пражытае,*
*ад рэчаіснасці адысці.*
*Каб першую зорку ўбачыць*
*і дзеда з калосся ў кутку,*
*стол скромна застаўлены стравай,*
*і бацьку, і маці,*
*і цэлую сям'ю.*
*Удыхнуць марозны павеў ветру,*
*пачуць святочны пах*
*булачак з макам,*
*каляднікаў пад вокнамі ўбачыць*
*маёй вясковай хаты,*
*яе зялёныя сцены*
*і аканіцы здобныя,*
*як галубыя птушачкі на іх прыселі,*
*рукамі майго бацькі зроблены...*
*І гвязду каляровую,*
*шмат хлопцаў і дзяўчат,*
*і дзетак радасных, што ў вокнах тырчаць.*
*Пачуць, як на снежнай вуліцы*
*меладычныя песні грымяць.*
*Як у кожную хату*
*нясуць словы святыя:*
*каб поспехі і радасць былі,*
*і здароўе для кожнай сям'і.*
*Каб вярнуцца ў дзяцінства*
*і дзявоцтва ізноў,*
*хаця для хвілінкі, маленькай, адной...*
*Ды не знойдзеш сілы*
*нідзе і ніколі,*
*ні вярнуць, ні ўбачыць,*
*ні нацешыцца ўволю.*
*Памаленьку закрый успаміны жыцця,*
*будзь шчаслівы цяпер,*
*і нідзе не спяшы,*
*бо ідзеш не назад, а ўперад*
*у далёкі свет небыцця.*



Вольга ІВАНЮК

## Лявонь

*Жыў на свеце Лявонь.*
*маладзенькім быў ён,*
*яшчэ з доляй-нядоляй не бачыўся.*

*Сонны сэрцам, душой*
*драмаў у хатцы крывой,*
*а выходзіў — слязамі след значыўся.*

*Ды вось чуе Лявонь*
*крыкі з усіх старон,*
*што ён дурань, жыве па-быдлячаму.*

*Дык ён тут зразумеў,*
*што дум светлых не меў,*
*што падобны да дрэва хадзячага.*

*Зварухнуўся Лявонь*
*як вада, як агонь,*
*пазнаў сілы свае небывалыя.*

*Ужо бяда — не бяда,*
*ужо нуда — не нуда,*
*спяяў песні свае вельмі ўдалыя!*



1 ☞працяг

## Адкліканне з адтэрміноўкай

экспертызу наконт выканання кроквенных фермаў на доме Януша Русачыка, якая была — як кажа цяперашні войт — будаўнічым самавольствам. Войт Пляскові не скрываў перад раднымі:

— Прыгавор суда абмеркаванню не падлягае. Я прымаю з пакорай яго паслядоўнасці. Аднак гэта рашэнне вельмі несправядлівае і вельмі мяне крыўдзіць.

І дадаў, спасылаючыся на судовы працэс:

— А калі гаворка пра злоўжыванне алкаголем, не хачу, каб гэта прагучала як хвальба, але ад чатырох гадоў я з'яўляюся членам нацыянальнай зборнай ветэранаў Саюза польскай лёгкай атлетыкі, прадстаўляў Польшчу на чэмпіянаце Еўропы ў Венгрыі. Сёлета таксама прымерваюся да ўсіх такіх імпрэз. Не мог бы я дасягаць такіх вынікаў, якіх пазайздросціць маглі б мне ліцэісты, калі б злоўжываў алкаголем (...). У гэтай справе іншы прысуд адбыўся няпоўныя тры месяцы пасля інцыдэнту, 5 снежня 2010 года. Гэта быў востры суддзя — мясцовае грамадства. Гэта грамадства ў мае і вашы рукі даручыла абавязкі распараджацца нашымі грошыкамі.

Галасаванне над заявай аб спыненні тэрміну паўнамоцтваў войта прабягала без дыскусій. Супраць яго адклікання прагаласавала васьмёх радных, пяць было супраць, а двух устрымалася пры галасаванні.

У кулуарах пасля заканчэння сесіі радныя тлумачылі „Ніве" чаму былі супраць адхілення войта ад пасады. Сярод іх быў Юры Сакоўскі:

— Наш выбарчы закон не выконвае спадзяванняў наконт незалежнасці самаўрада.

За адкліканне выказалася м.інш. радная Анна Вавжэнюк:

— Закон удакладняе, што асоба, на якой ляжыць пакаранне за ўмыснае злачынства, не можа выконваць функцыі ў самакіраванні. Я ў першую чаргу прымаю пад увагу справядлівасць і правасуддзе.

У нашу размову з раднымі ўключыўся адзін з жыхароў:

— З якой гэта рацыі трэба гнаіць вельмі добрага войта? Такія працэсы, якія сведкі!

Іншы быў упэўнены:

— Хоць суд прыняў такое рашэнне, па прычыне таго, што грамадства ў выбарах вырашыла так а не інакай аб выбары нашага войта, мы павінны яму даць шанц на завяршэнне пачатых інвестыцый.

Са свайго рашэння тлумачылася таксама старшыня Ева Урбановіч (галасавала супраць адклікання):

— Гэты пан, які абвінаваціў войта, абвінавачвае ўсіх. На маю думку гэта была кароткая мужчынская размова, хаця адносна дэталяў цяжка мне выказвацца, бо я не была таго сведкай ды не бачыла актаў. Цяпер мы рэалізуем вельмі вялікую інвестыцыю коштам у 3,5 млн. зл., перабудову трох найбольшых вуліц у Нарве: Белавежскай, Міцкевіча і Жаромскага ды перабудову тратуараў. Пачалі мы гэтую інвестыцыю цяпер. Палова ўжо зрэалізавана. Другую частку плануем закончыць сёлета ў маі. Мелі мы абяцаныя грошы міністэрства рэгіянальнага развіцця Альжбетай Бянькоўскай. Дапільнавалі мы ўсіх тэрмінаў. Калі мы пачалі рэалізаваць інвестыцыю разам з войтам, дык лічу, што да мая павінны яе кончыць. Запланаваны ўжо цыкл сустрэч у міністэрствах фінансаў і рэгіянальнага развіцця адносна далейшай рэалізацыі інвестыцыі. Калі б мы сёння адхілілі ад пасады войта, дык хто б удзельнічаў у гэтых сустрэчах, хто б маніторававаў справу?

Праблема ў Гміннай управе ў Нарве заключаецца і ў тым, што войт Андрэй Пляскові, як выканаўчая ўлада, кіруе практычна адзін. Восенню мінулага года адзіны ягоны намеснік, а заадно сакратар гміны, падаў у адстаўку. З таго часу войт не прызначыў нікога на згаданыя пасады. У выпадку хваробы войта ці іншых экстранных здарэнняў ад восені заступаў яго кіраўнік арганізацыйнага рэферата, але без магчымасці прымаць абавязваючыя рашэнні.

Януша Русачыка на сесіі не было. Ягона маці пасля 10 гадзіны, пасля заканчэння сесіі, адчыніла нам зачыненыя на ключ дзверы яго стогадовага дома, што стаіць насупраць няшчаснага прыпынку ПКС, якога частку наймае пякарня.

— Бабка войта і дзед Януша — сястра і брат, — сказала, перакручыўшы ключ.

Заспаны сын тлумачыў:

— З войтам мы сям'я толькі на паперы, ды эмацыянальна нас нічога не спалучае, а гэта ж з'яўляецца асновай сям'і.

Каментаваў вынікі галасавання радных:

— Гэта вельмі памылковае рашэнне. Гэта рашэнне супраць правасуддзя. Калі хтосьці так сябе паводзіць, дык няхай задумаецца ці павінен быць радным. Чалавек, які дапускаецца такога як нарваўскі войт, павінен быць зняты з пасады. Такое быць павінна рашэнне Гміннай рады без агаворкі. У нашай гміне, аднак, існуе нейкая група асоб, для якой важныя інтарэсы пана войта, які штосьці ім дае. Я свята перакананы, што рашэнне ваяводы будзе слушнае, калі выдасць заменнае рашэнне аб спыненні тэрміну паўнамоцтваў войта. Я спадзяюся, што толькі гэтае рашэнне не будзе абскарджвацца вышэй, бо ўся наша гміна стане пасмешышчам.

Цяпер рух на баку падляшскага ваяводы Мацея Жыўны. Яго прэс-сакратар Іаанна Гавел тлумачыць:

— На спыненне тэрміну паўнамоцтваў войта Гмінная рада ў Нарве мае час да 29 студзеня. Калі да гэтага часу не вырашыць справы на наступнай пазачарговай сесіі, ваявода выступіць з заклікам змяніць рашэнне аб неадкліканні войта. Калі Гмінная рада гэтага не зробіць, ваявода выдасць распараджэнне аб спыненні тэрміну паўнамоцтваў і падасць прэм'еру заяву на прызначэнне камісара да часу новых выбараў. Ад часу выдачы заменнага распараджэння Рада мае 30 дзён на апеляцыю ў Ваяводскі адміністрацыйны суд. Прытым усё лічыцца ад дат прыняцця Гміннай радай адпаведных пісем.

Марэк Рыбнік дадае:

— У такой сітуацыі ў выпадку выбараў новага войта абавязвае непасрэдны рэжым, які прадбачвае скарочаны выбарчы каляндар. Пакуль ніхто не думае аб назначэнні камісара.

Так вось усё паказвае на тое, што войту Плясковічу (падтрыманаму на апошніх выбарах 794 галасамі ў другім туры пры 42-працэнтнай яўцы выбарцаў і пры трох контркандыдатах у першым туры) можа ўдацца завяршэнне інвестыцый згаданых старшынёй Урбановіч, а прынамсі давесці да канца міністэрскія размовы па іх фінансаванні.




Калі на імгненне ўявіць, што з „Нівы" знік яе „дзіцячы" дадатак „Зорка", які рэдагуе Ганна Кандрацюк-Сяврубская, то застанецца толькі шкадаваць паперу, дзе друкуюцца артыкулы пра ўсялякія „дарослыя" праблемы альбо інтэрнэт-сайты. Праўда, смутак ад такога магчымага павароту лёсу хутка праходзіць, бо адразу прыходзіць усведамленне, што знікненне „Зоркі" для „Нівы" гэта тое ж самае, што, не дай Божа, знікненне дзяцей у грамадстве. Каму тады патрэбна такое грамадства з яго „дарослымі" артыкуламі? Нікому. Таму, пакуль нараджаюцца дзеці, і штотыдзень са старонак „Нівы" ззяе нам новая „Зорка", можна з вялікай палёгкай сцвярджаць: мы яшчэ не канчаткова прагневілі вышэйшыя сілы і рэдактарку Ганну, і ўсё пакуль застаецца як мае быць.

Дарэчы, „Зорка" — гэта не толькі артыкулы. Гэта, між іншым, і сустрэчы, якія ладзяцца для дзяцей пад яе ласкавымі промнямі. Каб гэтыя святло і цяпло надоўга захаваліся ў памяці былых удзельнікаў і прыцягнулі новых, у інтэрнэце з'явіўся сайт-архіў „Сустрэч «Зоркі»", што цягам многіх гадоў адбываюцца ў розных мясцовасцях. Сайт месціцца па адрасе **http://e-zorka.pl** і яго галоўная старонка мае даволі прывабны выгляд — яна змяшчае і прэзентацыю „Сустрэч", і фотаздымкі, і выйсці на кожнае прайшоўшае спатканне.

„Сустрэчы «Зоркі»" гэта самы каларытны і асобны раздзел у навейшай гісторыі Падляшша. Цягам апошніх семнаццаці гадоў узнікла шмат журналісцкіх, тэатральных, мастацкіх, краязнаўчых, музычных, літаратурных і этнаграфічных праектаў. Яны, у чым пераканаюцца наведвальнікі старонкі, далі пачатак амаль усім дзеянням і праектам, ведзеным беларускімі аб'яднаннямі і арганізацыямі. Сярод удзельнікаў вы сустрэнеце вядомых людзей: журналістаў, мастакоў, музыкантаў, вучоных, фатографаў, тэатральных рэжысёраў, літаратараў, аніматараў культуры", — распавядаюць пра віртуальны архіў яго стваральнікі.

Яны таксама дзеляцца планамі на будучае — нягледзячы на тое, што пакуль на сайце ў асноўным тэксты і фотаздымкі, за непрацяглы час там з'явяцца запісы радыёперадач і тэатральных пастановак. Дарэчы, сайт ужо з'яўляецца мультымедыйным — у рубрыцы „Медыя" змешчаны сем тэлевізійных сюжэтаў аб „Зорцы" і яе актыўнасці.

Гісторыя 25-ці „зоркавых" сустрэч сягае ў 1995 год. Падрабязна пра іх можна даведацца з рубрыкі „Сустрэчы". Ніводнае спатканне не засталося без аздобленага фотаздымкамі расповеду. Прычым многія артыкулы — справа рук дзяцей-удзельнікаў сустрэч. І тут выконваецца галоўная місія гэтых спатканняў — сурэдагаванне „Зоркі" разам з дзецьмі і маладымі аўтарамі, натхненне да журналісцкай дзейнасці.

Праўда, перыядычнасць сустрэч не заўсёды была аднолькавай. Так, з 1995 па 2001 гады яны, здараліся, праходзілі нават па некалькі разоў на год. Потым быў перапынак ажно да 2007 года.

Па словах Ганны Кандрацюк-Сяврубскай, якія прыводзяцца ў артыкуле „Сустрэчы на працягу гадоў" аўтарства яе дачкі Наталлі, першы цыкл сустрэч быў спынены, „бо найстарэйшыя сустрэчнікі паступалі ўжо ў вышэйшыя навучальныя ўстановы", і арганізатарцы было цікава, „ці сустрэчнікі стануць у будучыні дапамагаць ладзіць такія заняткі". Як аказалася, дапамаглі. „Да нас прыехала трох былых сустрэчнікаў — фатограф, журналіст і музыкант. Яны запрэзентавалі сваю творчасць і працу ды расказалі пра свет, у якім прабываюць", — піша Наталля пра сустрэчу ў Семяноўцы ў снежні 2007 года.

Апошнім часам „Сустрэчы «Зоркі»" адбываюцца ўлетку раз на год. Удзел у іх прымаюць і тыя журналісты „Нівы", што пішуць на розныя „дарослыя" тэмы. Ну а вось калі адбудзецца наступная сустрэча, на сайце пакуль не распавядаецца.

**Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ**

## БЕЛАРУСІ
## Скарбы

### Сонечны Нясвіж

У дзевяностыя гады XX ст., якія паталагічныя прыхільнікі пачварнага Савецкага Саюза ўпарта працягваюць называць „ліхімі", мне досыць часта з сябрамі альбо экскурсіямі даводзілася бываць у Нясвіжы — адным з самых старажытных і слаўтых беларускіх гарадоў. У сённяшнім адміністрацыйна-тэрытарыяльным падзеле ён прыналежыць да Мінскай вобласці. Што асабліва ўражвала — у кожны прыезд у розную пару года тут было заўсёды сонечна, у адрозненне ад недалёкага сталічнага Мінска, дзе цэлы час ішоў дождж. Нясвіж — Горад Сонца — для беларусаў адкрывала незабыўная мясцовая краязнаўца Клаўдзія Шышыгіна-Патоцкая: як праз свае кніжкі, так і асабіста. Здавалася, што прадстаўніца знакамітага графскага роду не пакідала мясцовага некалі радзівілаўскага замка — яе заўсёды можна было сустрэць на ўваходзе ў комплекс, паслухаць, купіць чарговую тоненькую, але такую змястоўную кніжачку пра нясвіжскія таямніцы і легенды. Здаецца, што ўсё напісанае пра Нясвіж пасля спадарыні Клаўдзіі — толькі другаснае.

Першы з помнікаў архітэктуры слаўтага сярэднявечнага горада, пра які я даведаўся, была Слуцкая брама — так называлася аднайменная песня рок-гурту „Бонда", які выступаў з канцэртам у далёкім ужо 1986 г. у нашай вайсковай частцы. „Слуцкая брама — непарушны мур, Слуцкая брама — сведка авантур". Гэта быў час поўны надзей і нацыянальнага абуджэння. Кампазіцыя іншага легендарнага гурту „Уліс" — „Цягнік на Нясвіж" — таксама адкрывала дарогу да гісторыі Беларусі. Рэч у тым, што да Нясвіжа няма чыгункі, але ж „рушыць цягнік на Нясвіж, ідзе дадому...". „На жывую" Слуцкая брама таксама не расчаравала. Такіх збудаванняў у Нясвіжы ў канцы XVI ст. было ажно чатыры, адпаведна выездам з горада. У XVIII ст. цытадэльная брама была перароблена ў барочным стылі. На першым яе паверсе было памяшканне для варты, на другім размяшчалася капліца.

Нясвіж з першага прыезду захапіў сваім архітэктурным багаццем. Тут і агромністы радзівілаўскі палацава-замкавы ансамбль, які заслугоўвае асобнай дэталёвай гаворкі. І колішні езуіцкі фарны касцёл (які фантастычны там роспіс столі і сцен!), пабудаваны геніяльным творцам Янам-Марыем Бернардоні па ўзоры рымскага храма Іль-Джэзу. І гарадская ратуша XVI ст., найстаражытнейшая з тых, што ацалелі на беларускай зямлі. І кляштар бенедыкцінак, у комплексе якога вылучаецца вежа-званіца — адзін з яркіх сімвалаў горада. І друкарня, дзе былі выдадзены знакамітыя творы на старабеларускай мове — „Катэхізіс" і „Апраўданне грэшнага чалавека перад Богам". І Дом рамесніка — узор стародаўняга гарадскога жылля, і пазнейшыя цікавыя забудовы. У адным Нясвіжы можна вывучаць архітэктурную эпоху стылю барока. А яшчэ тут ёсць помнік Сымону Буднаму, друкару і мысляру, загадкавай асобе дагэтуль: адны лічаць яго ерэтыкам-бязбожнікам, іншыя адваротна — чалавекам, які раней іншых са свайго часу спазнаў ісціну хрысціянскага вучэння.

Пасля смерці Шышыгінай-Патоцкай у 2005 г. мне ні разу не даводзілася больш прыязджаць у Нясвіж. Гэта былі гады татальнай „рэканструкцыі", навукоўцы з трывогай білі ў званы, што рэстаўрацыя пагражае аўтэнтычнасці радзівілаўскага замкавага комплексу. У слаўтай рэзідэнцыі былых магнатаў, якая была некалі гонарам усёй краіны, зараз новыя „гаспадары". І цяпер невядома, ці ўсё гэтак жа як раней наш Нясвіж сустракае сваіх гасцей сонцам...

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

Ніна БРУЧКО

# Гагатуха

Заўтра будзе дзень вясёлы — гагатуха! Кожны знае: наша моладзь цэлы год яе чакае. Будзе смеху, будзе жартаў, крыкаў, піскаў на ўсю вёску. Хоць старэйшым не па носе знайсці санкі ў суседа або ў лесе, то зноў брамку з панадворка за клунямі ў Рыгорка. А што будзе, калі Маня з хаты выйдзе?.. Лепш за печкаю сядзець, нават у вокны не глядзець, дзверы ў сенях на замок, а ў рукі ўзяць валок... Так, як Лідка, што ад Лярка, не хацела злезці з печы, хлопцы бегалі вакол, а дзяўчына іх — валком! Ды для Веры не ўдалося замкнуць дзверы, нат кажушка не надзела і абуцца не ўспела — Ваня ў пояс схапіў сільна, Сцёпа за рукі ўчапіўся — валакуць жа па няволі праз усю вёску, аж да Колі. Дзеўка дрэцца на ўсё горла — знікуль помачы няма! Людзі знаюць: гагатуха, крычыць Верка не адна! У канцы вёскі два падросткі шчэ за дня высыпалі попелам дарожку ад Даніла да Кузла, а ад Ніны для Валодзі вытышчылі воз із клуні і схавалі ў агародзе. Надзя з Насцяй варажылі — кідалі галошы на двары: скуль, з якога боку прыйдзе хлопец малады? Куды замуж выйдзе кожна і калі? Каб незапозна! І пад вокнамі пыталі, як жа будуць мужа звалі. А малодзенькую Валю ўвалаклі ў чужую хату, да Сярожы, што на калёніі за сялом: паказалі кацюбу ды памяло, калі будзе гаспадыняй — пратаць хату, хлеб пячы і суп варыць — трэба ж ведаць, што і дзе стаіць! А Сярожа разам з маці сталі госцей запрашаці — выпіць гарэлкі, закусіць, ну і дзеўку пахваліць.

Цэлу ночку гоман у вёсцы, хто крычыць, а хто смяецца, толькі рэха па ваколіцы нясецца! А старым ніяк не спіцца — заўтра ж ранењька ўставаць: воз і брамку йсці шукаць!

Ночка мігам праляцела, месячык схаваўся, зоркі моргаць перасталі... Усе ў вёсцы Новы годзік прывіталі.

Уладзімір СІДАРУК

# Хто адкажа?

5 студзеня падарожнічаў я з дачкою і ўнукамі з Беластока ў Чаромху цягніком, які адпраўляецца а гадз. 15:57. Тое, што Рэгіянальныя перавозы падрыхтавалі сваім кліентам на ўік-энд перад праваслаўнымі Калядамі і каталіцкімі Трыма Каралямі, пераўзышло межы чалавечага ўяўлення. Калі мы зайшлі на чацвёрты перон на дваццаць мінут да адпраўкі цягніка, заспелі маленькі рэйкавы аўтобусік запоўнены пасажырамі. А людзі ўсё прыходзілі. Пры ўваходных дзвярах стаяла кіраўнічка цягніка і рэкамендавала падыходзячым пасажырам з білетамі ў Чаромху і Бельск-Падляшскі паладавацца да пададзенага перад вакзалам іншага аўтобуса, бо ў рэйкавым не было ўжо месца. Гэта самае паўтарала тым, хто знаходзіўся ўнутры вагона. Адны паслухмяна адыходзілі, але большасць пхалася ўсярэдзіну. Не было дзе варухнуцца. У дапамогу падышла другая кіраўнічка і загадала запіхваць багаж па баках, каб памесціць больш людзей. Праз нейкі час ніхто не адзываўся, але знайшоўся смяльчак, які зрабіў кандуктарцы заўвагу: „Гэта скандал, каб так абыходзіцца з чалавекам, — гаварыў усхваляваным голасам. — Чаму малы аўтобус падалі? Хто адказвае за гэты балаган?”. Паненачка пачала тлумачыць, што яна тут невіноўная, бо выконвае адно свой абавязак. „А ці кіраўнік цягніка павінен адпраўляцца ў рэйс на перапоўненым аўтобусе?” — пытаю загадчыцу. — Гэта ж пагражае бяспецы падарожных. Вы павінны проста адмовіцца ехаць у такой сітуацыі”. — „Пан не зна «пшэпісаў», — агрызнулася паненачка і дадала: — З вагона ніхто не вылеціць”.

З Беластока адправіліся згодна раскладу язды. Кіраўнічка без перапынку размаўляла па мабільніку. Тут жа некаму заявіла: „Пакуль што ўсё ў норме. Нікога не пакінулі. На Стадыёне (на наступным прыпынку — аўтар), лічу, забярэм усіх”.

Так і было. На Стадыёне зайшло толькі чатыры-пяць чалавек. Памесціліся, хоць сціскаліся як селядцы ў бочцы. Але начальнікаў суполкі Рэгіянальныя перавозы, а перш за ўсё дыспетчара адказнага за арганізаванне бяспечнага транспарту гэта не хвалявала. Для гэтых чынушаў лічацца адно грошы. Таму намагаюцца „вырваць” ад Маршалкоўскай управы чым больш датацыі на нерэнтабельную лінію Чаромха — Беласток. Хачу прытым адзначыць з поўнай адказнасцю за свае словы, што гэта не адзіны прыклад перапоўненых аўтобусаў на згаданай лініі. А дзеецца гэтак таму, што перад уік-эндамі падаюць „адначленны” (малы) рэйкавы аўтобус. Ён прызначаны адно для 55-60 пасажыраў. А падарожнічае ў такіх выпадках на некалькі дзесятак чалавек больш.

У Лявіцкіх змянілася каманда цягніка. Беластоцкія машыніст з кіраўнічкай пераселіся ў „двухчленны” напаўзапоўнены рэйкавы аўтобус, а чарамхоўская каманда перамясцілася ў наш. І ўсё здавалася б быць „у норме”, каб не адно маленькае „але”, якое тычыцца негаспадарнасці чыгункі ды бяспекі пасажыраў. Справа ў арганізаванні заменнага транспарту з Беластока ў Чаромху з прыцягненнем прыватнай фірмы „Ваяжэр”, які абышоўся Рэгіянальным перавозам значнай сумай, прычым парушалася бяспека пасажыраў перапоўненага маршрутнага рэйкавага аўтобуса. Ці такое павінна здарацца ў рыначнай эканоміцы і ў дзяржаве права? Хто адкажа нам на гэтыя пытанні?...

PS. Гэты словы кірую ў адрас Маршалкоўскай управы, а ў прыватнасці віцэ-маршалку Валентаму Карыцкаму, адказнаму за чыгуначныя перавозы.

# 29.01 — 04.02

**(22.03. — 20.04.)** Адмоўныя перажыванні з пачатку тыдня хутка цябе пакінуць. Старайся не настройваць сябе на благое, усё пойдзе лепш. Старайся да ўсяго падыходзіць лёгка, бестурботна, давярай волі лёсу, плыві па цячэнні. Поспех у справах пад канец тыдня, хутчэй для пачынанняў, чым завяршання.

**(21.04. — 21.05.)** Найбольшы поспех — для бізнесу, наладжання жылля — на пачатку тыдня (нават калі задума прыйдзе ў сне). Можа да цябе ўсміхнуцца лёс: лаві смела птушку шчасця! У другой палове тыдня пільная, мэтанакіраваная работа, бо як бы да цябе Фартуна добра ставілася, ты гэтым можаш не пакарыстацца!

**(22.05. — 22.06.)** Могуць вырашыцца многія пытанні, звязаныя са сферай пачуццяў. Адносіны будуць умацаваныя і звязаны ў моцны вузел; варта спадзявацца на лепшае. У другой палове тыдня паспяховая дзейнасць у матэрыяльнай сферы, магчымасць умацаваць сваё становішча на працы, у грамадстве і пайсці ўперад.

**(23.06. — 23.07.)** Ты заслужыў права на адпачынак! Справы прыведзены ў норму, усё пастаўлена ў паток і можна проста насалоджвацца працэсам, які праходзіць па тваім плане. Можаш весці сябе як кіраўнік, назіраць за парадкам, прытым не ўмешвацца без патрэбы ў той працэс. Ну, вядома, пад канец тыдня схочацца ўсё перайначыць, а затым перарабляць планы і некаторыя справы пачынаць ад пачатку.

**(24.07. — 23.08.)** Тыдзень добры для ўсяго, што звязанае з сям'ёй і эмацыянальным задавальненнем. Каб не парушыць ідылію, трэба праявіць мудрасць, чуткасць і разуменне далікатных працэсаў. Неакуратнымі паступкамі можаш папсаваць адносіны і мілыя хвіліны сабе і іншым. Будзь абачлівы і гнуткі.

**(24.08. — 23.09.)** Мусіш аказаць увагу родным. Трэба будзе вярнуць даўгі ці ўзяць пазыку, заняцца матэрыяльнай і іншай дапамогай. Можаш таксама разлічваць на такую ж дапамогу табе. Фінансавае становішча стабільнае, ды не скажаш, што вельмі паспяховае, таму не плануй новых пачаткаў ці новай працы на гэты час. Новыя задумы абдумвай і плануй на пасля.

**(24.09. — 23.10.)** Трэба будзе вырашыць юрыдычныя пытанні наконт фінансаў. Магчымае атрыманне заслужанага заробку ці ўзнагароды. Магчымыя спрэчкі з-за матэрыяльных каштоўнасцей. Падзеі гэтага тыдня могуць адкрыць табе новыя гарызонты і поле для дзейнасці. Магчымасці рэалізаваць сябе ў фінансавай сферы, атрымаць павышэнне, наладзіць жыллё. Фінансавая апора і дадатковы штуршок уперад.

**(24.10. — 22.11.)** Час адпачынку і крышку ляноты, ды трэба яго выкарыстаць разумна. Набярыся сілы, вопыту і ведаў. Магчымыя падзеі, уплыў якіх будзе даўжэйшы. Чакаюць змены, прычым сур'ёзныя. Могуць нарадзіцца новыя ідэі, новыя справы, пара таксама пазбыцца старызны. Ды лепш адмоўся ад публічных выступленняў і заяў.

**(23.11. — 22.12.)** Многа сіл, якія можаш выкарыстаць, каб зрабіць штосьці незвычайнае і маштабнае. Мусіш думаць, планаваць, меркаваць, а не толькі ўкладваць сілу. У першай палове тыдня актыўная і крыху бесталковая работа, страта сіл упустую. Пад канец тыдня возьмешся за галаву (можа, дзякуючы парадзе) і пачнеш карысна прымяняць сваю сілу.

**(23.12. — 20.01.)** Мусіш разгрузіцца ў пацесе, каб набраць пазітыўных эмоцый і сілы для справы. Чакае цябе шмат перамен. Маеш шанц разумна павярнуць кола Лёсу ў свой бок. Прояві ашчаднасць, гнуткасць, кемлівасць і ўнутраную непрымірымасць.

**(21.01. — 19.02.)** Схочацца цешыцца жыццём, шалець, рамантычнічаць, ды жыццё накіруе цябе ў больш прызямное русла. Прыкладзіся да працы і матэрыяльных, хатніх спраў. Пад канец тыдня чакае цябе ўзнагарода, спакой і прытульнасць у сям'і.

**(20.02. — 21.03.)** Маса розных кантактаў, сустрэч, эмоцый і адносін. Эмоцыі пад канец тыдня вазьмі пад кантроль і накіруй у прадуктыўнае рэчышча. Аддай увагу сабе, сваім здароўю і красе.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

# Адгаданка

**Шыфраграма**

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — іспанскую прыказку.

| | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 |
| | | | | | | | | | 7 | 8 | 9 | 10 |
| 11 | 12 | 13 | 14 | 15 | 16 | 17 | 18 | 19 | 20 | 21 | 22 | 23 |
| | | | | | | | | 24 | 25 | 26 | 27 | 28 |
| | | | | | | | | 29 | 30 | 31 | 32 | 33 |

1. насціл з бярвення, галля, ламачча для праезду цераз балота або гразкае месца ў... Гацьках = 7 _ 6 _ 17 _ 28 _;
2. вялікая рака на поўначы Беларусі = 24 _ 25 _ 19 _ 20 _ 27 _ 18 _;
3. спецыяльны рэжым харчавання = 31 _ 30 _ 26 _ 9 _ 10 _;
4. французскі порт у... гувернанткі = 11 _ 12 _ 32 _ 29 _;
5. шырокая пасудзіна або частка чалавечага шкілета = 4 _ 2 _ 1 _;
6. індыйска-пакістанская пустыня = 21 _ 16 _ 15 _;
7. ружавая калючка = 22 _ 23 _ 14 _;
8. жыхар Тэль-Авіва = 33 _ 3 _ 5 _ 8 _ 13 _.

**(ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 52 нумара**

Авёс, вока, Зея, знак, мазь, мі.

Рашэнне: **Зіма як казна — сваё возьме**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Вользе Гаворка** з Беластока і **Яну Міхалюку** з Чыжоў.

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.iig.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.iig.pl*
*Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji.*
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Ілона Карпюк, Міраслава Лукша, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, siedziba redakcji „Niwy”.
**Prenumerata krajowa**
Termin przyjmowania wpłat do 5-go dnia każdego miesiąca poprzedzającego okres rozpoczęcia prenumeraty.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „RUCH” i „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Cena prenumeraty kwartalnej: I kwartał — 32,5 zł., II kwartał — 32,5 zł., III kwartał — 35,0 zł., IV kwartał — 32,5 zł., rocznej — 132,5 zł.
**Prenumerata z wysyłką za granicę**
Wpłaty przyjmuje „RUCH” S.A. ul. Annopol 17a, 03-236 Warszawa; telefony: +48(22) 69-36-775, +48(22) 69-36-782, +48(22) 69-36-718; www.ruch.pol.pl
**Prenumerata w redakcji**
Planowana ilość numerów „Niwy” w 2012 roku — 53.
**Przesyłka zwykła:** Cena 1 egz. wraz z wysyłką w kraju wynosi 4,2 zł.

**Wpłaty przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945

**Nakład**: 1 300 egz.

Сяргей ЧЫГРЫН

# Архіепіскап Філафей (ч. I)

**Доктар філасофіі, акадэмік Міжнароднай акадэміі астранаўтыкі ў Парыжы, прафесар матэматыкі беларус Барыс Кіт у сваіх успамінах пра беларускага архіепіскапа Філафея (Уладзіміра Нарко), якія публікаваліся ў кнізе Аляксандра Адзінца „Паваенная эміграцыя: скрыжаванні лёсаў” (Мінск 2007, с. 634) згадвае: „Аднойчы (гэта было ў пасляваеннай Германіі — С. Ч.), калі скончылася служба, утварылася чарга, каб пацалаваць крыж. Падыходжу да святыні і я, айцец Філафей, як пабачыў мяне, страшэнна здзівіўся, адсунуў крыж убок, абняў мяне і пачаў голасна размаўляць па-беларуску. Гэта ў расейскай-та царкве...”. Так, гэта быў той Філафей, які ў гады Другой сусветнай вайны ў Беларусі ўдзельнічаў у аднаўленні і фармаванні царкоўнага кіраўніцтва Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы.**



Архімандрыт Філафей сядзіць першы злева са студэнтамі багаслоўскага факультэта Варшаўскага ўніверсітэта і з духавенствам Польскай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы, Варшава, 1938 г. Фота друкуецца ўпершыню.

Нарадзіўся Уладзімір Нарко 21 лютага 1905 года ў вёсцы Занарач Мядзельскага раёна. Паводле іншых звестак ён нарадзіўся ў мястэчку Ілья Вілейскага раёна ў сям'і святара. Яго бацька Еўдакім Нарко служыў у Ільінскай царкве Віленскай епархіі псаломшчыкам і дыяканам, а маці Марыя Нарко (дзявочае прозвішча Вялічка) была хатняй гаспадыняй. Названы падчас хрышчэння Уладзімірам, будучы ўладыка Філафей з маленства пачаў служыць Хрыстовай Царкве, прыслужваючы з 14 гадоў у алтары свайму бацьку.

Першапачатковую адукацыю Уладзімір Нарко атрымаў дома. Потым вучыўся ў гімназіі Фердынанда Велера ў Вільні. Калі вытрымаў экзамен за курс сямі класаў навучання, у верасні 1921 года быў залічаны выхаванцам Віленскай духоўнай праваслаўнай семінарыі. А потым працягваў вучобу на багаслоўскім факультэце Варшаўскага ўніверсітэта, які скончыў у 1929 годзе.

Праваслаўныя прыходы Польшчы ў той час, нягледзячы на пратэсты патрыярха Ціхана і Архіерэйскага сінода Рускай Праваслаўнай Царквы за мяжой, атрымалі царкоўную аўтакефалію ад канстанцінопальскага патрыярха. Магчыма гэта зрабіла ўплыў на тое, што будучы ўладыка Філафей з 1931 па 1933 гады працягваў адукацыю ў багаслоўскай школе Канстанцінопальскай Патрыярхіі на востраве Халкі. У 1937 годзе ён атрымаў дыплом магістра багаслоўя.

У 1927 годзе ў Пачаеўскай лаўры малады Уладзімір Нарко разам з Антонам Мартасам (1904-1984) быў пастрыжаны ў манахі намеснікам ігумена архімандрытам Дамаскінам. Дарэчы, Антон Мартас (архіепіскап Афанасій) нарадзіўся на Нясвіжчыне. У 1942 годзе ў Мінску быў рукапаложаны ў епіскапа віцебскага і полацкага. Пасля вайны жыў у Германіі, Аўстраліі, Аргенціне. Усё жыццё сябраваў з уладыкам Філафеем. У 1966 годзе ў Буэнас-Айрэсе выдаў кнігу „Беларусь в исторической государственной и церковной жизни” з прадмовай па-беларуску. Праз некалькі гадоў Сінод Рускай Праваслаўнай Царквы за мяжой забараніў чытанне і распаўсюджванне гэтай кнігі, а аўтара адлучылі ад рэлігійнай дзейнасці. Тады архіепіскап Афанасій уваходзіў у юрысдыкцыю Рускай Праваслаўнай Царквы за мяжой. Да 100-годдзя архіепіскапа Афанасія ў Жыровічах з друку выйшлі асобнай кнігай яго „Матэрыялы да гісторыі Праваслаўнай Беларускай Царквы”, а таксама ўспаміны „На ніве Хрыстовай” (Нью Ёрк — Менск — Варшава 2005). А кнігу „Беларусь в исторической государственной и церковной жизни” з прадмовай па-беларуску Антона Мартаса Беларускі Экзархат перавыдаў у Мінску ў 1990 годзе.

У 1927 годзе айцец Філафей быў узведзены ў дыяканскі, а потым у іерэйскі сан. Далей рэлігійны шлях айца Філафея ляжаў у Мюнхен, дзе ён кароткі час служыў свяшчэннікам, а з 1929 года быў намеснікам настаяцеля манастыра святога Ануфрыя ў Яблачыне Варшаўска-Холмскай епархіі. Пэўны час нават выконваў святарскія абавязкі ў Галічыне, быў начальнікам духоўнай місіі. Пасля Галічыны Філафея хутка ўзвялі ў сан архімандрыта.



Архіепіскап Філафей (сядзіць злева) з вучнямі ў Варшаве.1930-я гады. Фота друкуецца ўпершыню.

У 1936 годзе ён быў прызначаны інспектарам Варшаўскай духоўнай семінарыі, а потым стаў дацэнтам духоўнага багаслоўя багаслоўскага факультэта Варшаўскага ўніверсітэта. Беларуса хутка выбіраюць намеснікам настаяцеля Варшаўскага кафедральнага сабора, а таксама яго рызнічным. Адначасова ён працуе выкладчыкам багаслоўя ў дзвюх прыватных школах — нямецкай гімназіі і французскім ліцэі. Не забывае святар і пра беларускі прыход у Варшаве, дзе ён служыць другім святаром. А пазней становіцца сябрам Варшаўскай духоўнай кансісторыі.

У гады Другой сусветнай вайны, калі Польшча і Беларусь былі пад нямецкай акупацыяй, мітрапаліт Дыянісій, які ў той час узначальваў Польскую Аўтакефальную Праваслаўную Царкву, лічыў Беларусь у сваёй юрысдыкцыі. Напачатку верасня 1941 года Дыянісій склікаў Раду Беларускай Царквы, каб сур'ёзна вырашыць задачу распаўсюджвання на Беларусь юрысдыкцыі Польскай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы. Архімандрыт Філафей з'яўляўся сябрам гэтай Рады і мітрапаліт Дыянісій рэкамендаваў яго, а таксама архімандрыта Антона Мартаса і архімандрыта Феафана Пратасевіча ў кандыдаты для кіравання беларускімі епархіямі на той беларускай тэрыторыі, якая была вызвалена немцамі ад бальшавікоў. А перад самай вайной Маскоўская Патрыярхія прызначыла мітрапаліта Панцеляймона (Паўла Ражноўскага) экзархам заходнебеларускім і ўкраінскім. Але мітрапаліты Дыянісій і Панцеляймон не ўлічылі адну акалічнасць, што гаспадарамі на тэрыторыі Беларусі былі ўсё ж германскія ўлады. І калі ў 1941 годзе на Бацькаўшчыну прыехаў Філафей, якога накіраваў Дыянісій дзеля зацвярджэння на Беларусі юрысдыкцыі Польскай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы, і сустрэўся з Панцеляймонам, то зразумеў, што планам мітрапаліта Дыянісія немагчыма збыцца. Таму архімандрыт Філафей вырашае застацца на радзіме і дапамагаць мітрапаліту Панцеляймону.

15 лістапада 1941 года архімандрыт Філафей прыбыў у Жыровічы, што на Слонімшчыне. Вечарам таго ж дня адбыўся Сабор епіскапаў Святой Праваслаўнай Царквы на Беларусі. Архімандрыт Філафей азнаёміў Сабор з дакументамі ад мітрапаліта Дыянісія і паведаміў аб хуткім прыездзе на Беларусь архімандрыта Афанасія. Сабор епіскапаў пастанавіў: прызначыць архімандрыта Філафея сябрам царкоўнага кіраўніцтва ў Жыровічах, хіратанізаваць архімандрыта Філафея 23 лістапада ў саборным святым Успенскім храме ў Жыровіцкім манастыры ў епіскапа слуцкага, другога вікарыя мітрапаліта з месцазнаходжаннем у Мінску.

Архімандрыт Філафей быў хіратанізаваны. Хіратонію правялі мітрапаліт Панцеляймон пры ўдзеле епіскапа брэсцкага Венядзікта. А 30 лістапада 1941 года мітрапаліт Панцеляймон і епіскап Філафей прыбылі ў Мінск. Там іх урачыста сустрэлі беларускія святары, адміністрацыя Мінска разам з Вацлавам Іваноўскім, сябры беларускіх арганізацый і вернікі. Была вялікая надзея, што з прыездам у Мінск мітрапаліта Панцеляймона і епіскапа Філафея царкоўнае праваслаўнае жыццё ў Беларусі нармалізуецца і народ атрымае сваіх беларускіх епіскапаў, святароў і сваю Беларускую Аўтакефальную Праваслаўную Царкву. Але мітрапаліт Пайцеляймон меў у сваіх думках іншую мэту. Ён быў моцным прыхільнікам Маскоўскай Патрыярхіі, і яму нялёгка было ад яе адарвацца. Ён адкладаў хіратонію ў епіскапы беларускіх кандыдатаў і не пашыраў сваёй духоўнай архіпастырскай дзейнасці па ўсёй мітраполіі. „А епіскап Філафей, — як пісаў у сваёй кнізе „За вольную і суверэнную Беларусь” (Вільня 2006, с. 133) Дзмітры Касмовіч, — быў слабахарактарным. Ён лавіраваў паміж беларускімі праваслаўнымі патрыётамі і русафіламі з мэтай заняць кіруючае месца ў Беларускай Праваслаўнай Царкве. Справа беларусізацыі царквы не пасоўвалася наперад”.

*(працяг будзе)*

ISSN 0546-1960